

BULK RATE
US POSTAGE
PAID
Grand Rapids, MI
Permit No. 1141

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА
ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 5(53) Чэрвень 1998 June Год выд. 6.


**Сёньня Беларусьсю кіруюць прыхільнікі бальшавіцка-сталінскага рэжыму, — рускія інтэрнацыяналісты, шавіністы ды іншыя чужыя прахадзімцы. Розныя Замяталіны, Цюценькові, Плецюховы, Катляровы і дзесяткі іншых ненавісьнікаў усяго беларускага адкрыта нішчаць беларускую мову, культуру, нацыянальныя сымбалі ды незалежнасьць краіны. Чым беларусы ўгнявілі гэтых чужынцаў, што яны па-зьвярынаму ненавідзяць беларускі народ?..**

З заявы "Сусьветнай службы Беларускага Збройнага Чыну".



## Др. Барыс РАГУЛЯ —

**ведамы грамадзка-палітычны, вайсковы і навуковы дзеяч, стары вэтэран беларускага незалежніцка-вызвольнага руху, сябра Рады БНР, вялікі і палымяны патрыёт беларускага народу.**

**Дарагі Др. Барыс! Вітаем Вас на старонках нашае незалежнае газэты.**



## *Свабоду палітычным вязням!*



**Аляксей Шыдлоўскі,**
*19 год, сябра Маладога Фронту*



**Павел Севярынец,**
*21 год, лідэр Маладога Фронту*

*Яны сядзяць за кратамі, бо любяць Беларусь*

## Вязні "высоўваюцца"

*Члены Беларускай Асацыяцыі вязняў лукашэнкаўскага рэжыму, устаноўчы з'езд якой адбыўся напрыканцы красавіка, распаўсюдзілі заяву для прэсы, у якой абгрунтоўваецца неабходнасць існавання Ассацыяцыі. У заяве гаворыцца, што ўлады сістэматычна парушаюць канстытуцыйныя правы грамадзян на свабоду слова, сходаў, дэманстрацыяў. І ўжо тысячы людзей пацярпелі ад рэпрэсій рэжыму. Таму асацыяцыя, у якую ўвайшлі такія вядомыя на Беларусі грамадскія дзеячы, як П.Шарамет, В.Сіўчык, Ю.Хадыка, Д.Завадскі, ставіць перад сабой наступныя асноўныя мэты: садзейнічанне спыненню палітычных рэпрэсій у Беларусі; дапамога ўсім людзям, якія пацярпелі ад рэпрэсій; падтрымка палітычных зняволеных і іх сем'яў; інфармаванне грамадства і міжнароднай супольнасці пра парушэнні правоў чалавека на Беларусі.*

**Ул.інф.**

## *І зноў Статкевіча апраўдалі!*

14 мая ў Цэнтральным райсудзе Мінска адбылося слуханне па адміністрацыйнай справе лідэра БСДП "Народная Грамада" Міколы Статкевіча. Ён абвінавачваўся ў арганізацыі і правядзенні несанкцыянаванага шэсця 1 мая. Але суддзя А.Барысёнак, які разглядаў гэтую справу, прызнаў, што ў дзеяннях Статкевіча складу адміністрацыйнага парушэння няма.

Мікола Статкевіч выказаў намер звярнуцца ў суд з іскам супраць міліцыі Цэнтральнага раёна, з-за дзеянняў якой яму ўсё ж прыйшлося адсядзіць трое сутак адразу пасля шэсця. Статкевіч заявіў, што будзе патрабаваць ад праваахоўных органаў кампенсацыі маральных, фізічных і фінансавых выдаткаў.

**Ул.інф.**

## Навумчык хоча замяніць у турме маладых палітвязняў

Апазіцыянер Сяргей Навумчык, які знаходзіцца ў Злучаных Штатах у статусе палітычнага ўцекача, прапанаваў сябе заложнікам у абмен на свабоду зняволеных беларускімі ўладамі юнакоў Аляксея Шыдлоўскага і Паўла Севярынца.

У прапанове С.Навумчыка, накіраванай у адміністрацыю беларускага прэзідэнта на імя Аляксандра Лукашэнкі, гаворыцца: "Сканцэнтраваўшы ў сваіх руках абсалютную ўладу, Вы трымаеце ў турмах маладых людзей, якія сваімі ўчынкамі спрабуюць уратаваць знявважаны і растаптаны Вамі на так званым "рэферэндуме" гонар беларускай нацыі. Трымаючы за кратамі Аляксея Шыдлоўскага і Паўла Севярынца, Вы паводзіце сябе як тэрарыст, які захапіў дзяцей. Калі Вам патрэбны заложнікі, то я згодны ім быць. У абмен на вызваленне Шыдлоўскага і Севярынца я гатовы адсядзець у Вашай турме замест іх. Звяртаюся да Вас з ініцыятываю абмену. Гэты абмен павінен адбыцца ў прысутнасці прадстаўніка місіі АБСЕ і аднаго з акрэдытаваных у Мінску амбасадараў любой заходняй краіны".

Гэтая прапанова, па словах Навумчыка, не мае абмежаванняў па часе. На яго думку, "захоп безабаронных людзей ва ўласных інтарэсах, палітычных ці асабістых, у цывілізаваным свеце мае адну назву — тэрарызм. І прапанова захопніку іншай асобы ў абмен на вызваленне нявінных людзей не павінна ўспрымацца як прызнанне праваты гэтага захопніка".

**БелаПАН**

## Лукашэнка гатовы вярнуць савецкі гімн

**Выступаючы ў панядзелак у Гомелі на сесіі Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі, Аляксандр Лукашэнка ахарактарызаваў цяперашні стан СНД як «клінічную смерць» або «знаходжанне ў рэанімацыі».**

Такія рэзкія выказванні прэзідэнта Беларусі сталі вынікам яго ўдзелу ў паседжанні кіраўнікоў дзяржаваў СНД, што праходзіла ў Маскве напрыканцы красавіка. *«Не было прынята ніводнага канкрэтнага рашэння, не было падпісана ніводнага дакумента,* — заявіў Лукашэнка. — *Мы ўсе скінулі на водкуп нейкаму форуму і нават не вызначыліся, на якім узроўні будуць прадстаўленыя дзяржавы».* На яго думку, не варта перакладваць рашэнні праблемаў СНД на нейкі форум, тым больш, што ён не надзелены такімі паўнамоцтвамі. Прэзідэнт Беларусі лічыць, што гэты год, як і наступны, для СНД страчаны, паколькі ў Расіі і ва Украіне будуць праходзіць розныя выбары — ад парламенцкіх да прэзідэнцкіх, — і ўжо нічога *«ў інтэграцыйным накірунку не вырашыцца».* А таму, маўляў, трэба ўмацоўваць «саюз двух».

У сувязі з гэтым былі ўзнятыя пытанні аб гімне расійска-беларускага саюза, аб агульным грамадзянстве, наднацыянальных структурах кіравання і іншыя. Аляксандр Лукашэнка заявіў аб сваёй гатоўнасці падпісаць рашэнне аб зацвярджэнні гімна былога СССР саюзным гімнам. *«Мы не маем права страціць гэты беспрэцэдэнтны і добры гімн»,* — заявіў Лукашэнка. Беларускі прэзідэнт запэўніў дэпутатаў Парламенцкага сходу, што, калі яны прымуць адпаведнае рашэнне, то Вышэйшы савет абавязкова яго падтрымае. Як вядома, год таму расійскай Дзярждуме не хапіла 30 галасоў, каб зрабіць гімн былога СССР дзяржаўным гімнам Расіі.

**Ірына МАКАВЕЦКАЯ**



BELARUSIAN DIGEST
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108;—Fax: (616) 942-6364

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## Сьвятой Памяці
## Др. Вітаўт ТУМАШ

27-га красавіка 1998 году адыйшоў у лепшы сьвет Др. Вітаўт Тумаш. Ня стала цудоўнае душы чалавека, беларускага нацыянальнага дзеяча, знанага навукоўца і палымянага патрыёта Беларусі.

Цяжка паверыць, што няма больш з намі Др. Вітаўта Тумаша. Па-ранейшаму падбадзёрвае нас яго спакойны голас, цёплая ўсьмешка. Няхай амэрыканская зямля будзе яму пухам, а памяць пра яго будзе жыць у беларускіх сэрцах вечна.

ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ!

# Памяці паплечніцы Браніслава Тарашкевіча

**7 мая 1998 года на 98-ым годзе жыцця памерла Вера Андрэеўна Ніжанкоўская. Яна была ўвасабленнем духоўнай повязі некалькіх пакаленняў беларускай інтэлігенцыі. Нарадзілася Вера Андрэеўна ў сям'і гісторыка, асветніка, народазнаўца Андрэя Сніткі, была пляменніцай нязменнага на працягу многіх гадоў рэдактара "Нашай Нівы", заснавальніка першага ў Мінску беларускага часопіса "Саха" Аляксандра Уласава.**

**Стаўшы спадарожніцай жыцця вучонага, палітыка, літаратара Браніслава Тарашкевіча, была дзейснай памочніцай гэтага высокаталенавітага, мужнага чалавека, што самаахвярна аддаў жыццё за годную будучыню беларусаў.**

**Вера Андрэеўна дзяліла з Браніславам Тарашкевічам радасці і страты нацыянальна-вызваленчага руху Заходняй Беларусі. Была сувязной паміж ім і беларускімі дзеячамі, у тым ліку падпольнымі, падчас доўгага зняволення Тарашкевіча ў польскіх астрогах і турмах савецкіх. У час знаходжання Браніслава Тарашкевіча за кратамі даваеннай Польшчы выдала пераапрацаваную ім у зняволенні "Беларускую граматыку для школ" — пятае выданне, падрыхтаванае спецыяльна для хатняга вывучэння беларускай мовы ва ўмовах закрыцця беларускіх школ, нішчэння беларускай адукацыі.**

**На зыходзе другой сусветнай вайны Вера Андрэеўна страціла свайго з Тарашкевічам васемнаццацігадовага сына Радаслава: 15 чэрвеня 1944 г. ён загінуў у партызанскім атрадзе.**

**Беларускія пісьменнікі, вучоныя, мастакі шчодра карысталіся ведамі, успамінамі, пазначанымі драматызмам жыцця, гэтай прыгожай, высакароднай жанчыны.**

**ЛіМ.**

# Ці выратуе беларусаў ад рускай асіміляцыі ўсеславянскі з'езд?

Першы месяц лета абяцае стаць вельмі важным, адметным у жыцці славян: адбудзецца іх чарговы з'езд. Дзевяты па ліку. А адкрыецца ён 2 чэрвеня ў сталіцы Чэхіі — Празе. Сімвалічна, што якраз 150 гадоў таму назад тут праходзіў першы ўсеславянскі з'езд. Час быў вельмі неспакойны: у Еўропе шугала полымя рэвалюцыі 1848 г., якое ахапіла і многія славянскія народы. Пад той час з усіх іх толькі рускія мелі сваю дзяржаву, нікім нацыянальна не прыгнятаміся. Усе ж астатнія знаходзіліся пад страшэннай пагрозай асіміляцыі, якая ажыццяўлялася ў форме русіфікацыі, анямечвання і атурэчвання. На першым форуме славяне нават не мелі права афіцыйна выступаць на сваёй прыроднай мове: рабочай мовай для ўсіх служыла нямецкая (?!). Вось і выкажы на ёй глыбінныя, патаемныя славянскія думкі.

Як і многія, аўтар гэтых радкоў таксама з вялікай зацікаўленасцю чакае з'езда ў Празе. Праўда, якую ролю ён можа адыграць у выратаванні беларускага народа ад рускай культурна-моўнай асіміляцыі, захаванні і ўмацаванні суверэнітэту яго дзяржавы, мне пакуль не даводзілася чытаць на старонках дзяржаўных газет. А я ўпэўнены, калі ўдзельнікаў славянскага з'езда ў Празе як след азнаёміць з прычынамі нечуванага ў мінулым размывання нацыянальнага патэнцыялу беларускай прафесійнай культуры, страшэннага заняпаду беларускай мовы, яны не застануцца абыякавымі, безудзельнымі да нашага гаротнага лёсу. Толькі вось ці будзе каму з тых, каго афіцыйна славянскія арганізацыі Беларусі пашлюць у Прагу, сказаць чыстую праўду пра нашу несусветную бяду? Ці не звядуць яны толькі ўсю сваю гаворку да любімай тэмы: інтэграцыі краіне аслабленага ў этнічным плане, з процьмай нявырашаных культурна-моўных праблем беларускага народа з моцным, добра скансалідаваным па ўсіх параметрах нацыянальным арганізмам — рускім народам, што толькі паскорыць канчатковую асіміляцыю першага? Ухіліцца ад абмеркавання канкрэтных, надзённых беларускіх спраў афіцыйныя пасланцы ад славян Рэспублікі Беларусь могуць паспрабаваць яшчэ праз арганізацыю зусім бесперспектыўных дыскусій аб шляхах стварэння суперславянскай дзяржавы.

Моцна непакоіць і наступнае. Паля майскага (1995) моўнага рэферэндуму ўсе афіцыйныя дзяржаўныя структуры і верныя ім грамадскія арганізацыі, у тым ліку і занятыя славянскім пытаннем, нібы наўмысна карыстаюцца толькі рускай мовай. Таму баюся, што акурат з гэтай, а не з беларускай мовай, паедзе славянская дэлегацыя Беларусі ў Прагу. І такую моўную пазіцыю яна будзе тлумачыць шырокім распаўсюджваннем рускай мовы сярод усіх славян, неабходнасцю аблегчыць паразуменне прысутных у зале з тым, хто стаіць за трыбунай. Чаго добрага, прадстаўнікі нашай дэлегацыі яшчэ будуць схіляць усіх удзельнікаў з'езда зрабіць яго рабочай мовай толькі адну рускую, забываючы, што гэта ёсць прамая моўная дыскрымінацыя славян, якая можа ўбіць клін паміж імі.

Заўважу, што на міжнародных форумах славістаў гучаць усе славянскія мовы. Калі ж у Прагу з'едуцца людзі, якія не вызначаюцца асаблівымі філалагічнымі здольнасцямі, дзеля таго, каб не дапусціць моўнай дыскрымінацыі славян, застаецца адзіны сродак: арганізаваць сінхронны пераклад дакладаў. Вельмі было бы недарэчным, каб сёлета на з'ездзе славян, як і 150 гадоў таму, таксама гучала адна мова, толькі ўжо не нямецкая, а руская.

Мае сумненні адносна здольнасці і гатоўнасці афіцыйнай дэлегацыі славян Беларусі сказаць пра яе ў Празе горкую, але шчырую праўду наводзяць на думку, а ці не мэтазгодна было б на з'езд славян пасланцаў ад нашай краіны і альтэрнатыўную, незалежную дэлегацыю славян? У яе склад павінны ўваходзіць асобы, што трывала стаяць на нацыянальна-адраджэнскіх пазіцыях, валодаюць і карыстаюцца беларускай мовай, якія не пасаромеюцца сказаць братам-славянам, што зрабіла с Беларуссю варожая ятаму карэнным інтарэсам шматгадовая палітыка паланізацыі і русіфікацыі; не пабаяцца заявіць, што калі ўсё пакінуць такім, як яно ёсць сёння ў нашым краі, цяперашні з'езд славян у Празе стане апошнім для беларусаў. На чарговы, дзесяты агульнаславянскі з'езд на зямлі, якою зараз хоць з вялікай нацяжкай, але ўсё ж можна назваць беларускай, ужо паедуць рускія. А каб як мага лепш пераканаць славян у завершанасці такой этнічнай метамарфозы з беларусамі, пастараюцца наступны агульнаславянскі з'езд правесці ў Мінску, які ўжо сёння не мае ўласнага нацыянальнага аблічча, асабліва што датычыць культурна-моўнага становішча.

**Леанід ЛЫЧ,**
**доктар гістарычных навук,**
**прафесар.**

«Народная Воля»

# САПРАЎДНАЕ І ЎЯЎНАЕ РАЎНАПРАЎЕ

**У хуткім часе Палата прадстаўнікоў павінна канчаткова разглядзець законапраект «Аб мовах». У адпаведнасці з вынікамі майскага (1995 г.) рэферэндуму ў новым законе статус дзяржаўных будзе замацаваны і за беларускай, і за рускай мовамі.**

На жаль, у нашым грамадстве ў гэтыя дні, калі вырашаецца, якім быць закону, моўная праблема не абмяркоўваецца. Ніякіх дыскусій, падобных на тыя, што вяліся ў 1988—1989 гадах, калі Вярхоўны Савет БССР 11-га склікання (заўважым, цалкам камуністычны Вярхоўны Савет) адважыўся стаць на абарону паміраючай мовы, — цяпер не вядзецца. Напэўна, лічыцца само сабой зразумелым, што ўсе магчымыя довады выказаны ў 1995 годзе, калі кароткая вясна моўнага адраджэння ў Беларусі завяршылася.

Законапраект, які ходзіць цяпер па дэпутацкіх руках у беларускім парламенце, знешне цалкам дэмакратычны. Фармальна ён абвяшчае абедзве мовы абсалютна раўнапраўнымі: бацькі могуць самі выбіраць мову навучання для сваіх дзяцей, чыноўнікі не абмежаваны ў мове дзелавых зносінаў і дзелавой перапіскі, камерсанты свабодныя ў выбары мовы пры афармленні і рэкламаванні тавараў...

Напэўна, такі закон, сапраўды, мог бы лічыцца ўзорам дэмакратычнасці ў той краіне, дзе існуе рэальнае, а не дэклараванае двухмоўе (напрыклад, у Швейцарыі ці Бельгіі); дзе ніводнай з моў нішто не пагражае; дзе існуюць дзяржаўныя гарантыі абароны кожнай з іх.

Галоўная загана гэтага законапраекта ва ўмовах Беларусі — тое, што ён не ўлічвае рэалій, што ў яго аснову пакладзена мёртвая схема і не ўлічваецца шматгадовая татальная русіфікацыя ўсяго грамадскага жыцця, якая працягваецца і сёння.

Я не збіраюся абвяргаць вынікі рэферэндуму трохгадовай даўнасці. Але давайце быць дакладнымі і скрупулёзнымі: на плебісцыце большасць насельніцтва прагаласавала не за русіфікацыю і не за вынішчэнне беларускай мовы, а за рэальную роўнасць дзвюх моў. Так што заканадаўцы сёння павінны стварыць закон, які б забяспечыў гэту роўнасць. Калі праз год ці праз два выявіцца, што адна з моў па-ранейшаму дыскрымінуецца, — значыць закон нікуды не варты.

Якая з моў сёння ў Беларусі ў падаўленым стане, здагадацца няцяжка. Прайдзіце па вуліцах беларускай сталіцы або любога іншага горада краіны: гарадскія ўлады і гандляры імкліва пазбаўляюцца ад усяго беларускамоўнага.

Хацелася б паглядзець у вочы таму чыноўніку, які рыхтаваў пастанову, паводле якой усе тавары, якія прадаюцца на тэрыторыі краіны, павінны суправаджацца анатацыяй на рускай або беларускай мове. Здавалася б, дробязь: замяніць злучнік «або» на злучнік «і». А вынік гэтай «дробязі» тое, што беларуская мова цалкам вынішчана з афармлення тавараў. Заўважым: падобных дакументаў, накіраваных на дыскрымінацыю роднай мовы, не прынята ні ў адной з краін СНД, нават у такіх русіфікаваных, як Украіна і Казахстан. Акрамя ўсяго іншага, гэта ўдар па прэстыжу дзяржавы: па ўсім свеце разыходзяцца тавары, афармленыя на ўкраінскай, літоўскай, латышскай, польскай, балгарскай мовах... Беларусь у гэтым пераліку не значыцца.

Раўнапраўе дык раўнапраўе: гэты прынцып прадугледжвае, што мова ні ў чым не павінна быць ушчэмлена. А значыць камерсант, які аршыннымі літарамі ўпрыгожыў свой магазін у цэнтры сталіцы рускамоўным надпісам, — побач павінен у абавязковым парадку такога ж памеру шрыфтам змясціць беларускамоўны надпіс. Калі ён не пажадае гэтага зрабіць, то павінен несці адказнасць, паколькі яго дзеянні накіраваныя на дыскрымінацыю адной з моў, прызнаных на рэферэндуме дзяржаўнымі.

Падобны падыход павінен прымяняцца ва ўсіх сферах грамадскага жыцця, у тым ліку і ў справаводстве: не чыноўніку выбіраць, на якой мове афармляць дакументы. Народ жа ў маі 1995 года галасаваў не за рускую або беларускую мову, а за рускую і беларускую. Значыць, усе дакументы павінны афармляцца на дзвюх мовах. Зразумела, гэта стварае пэўныя тэхнічныя цяжкасці, але пра іх варта думаць да рэферэндуму, а не падладжваць волю народа пад свае карпаратыўныя інтарэсы.

На жаль, у сённяшніх умовах мала шанцаў, што такі падыход возьме верх. Хутчэй за ўсё, прадоўжыцца ранейшая практыка. Але праблема гэтым не вырашаецца: гадоў праз пяць—дзесяць палітычныя кіраўніцтва немінуча сутыкнецца з разбуральнай тэндэнцыяй, з канстатацыяй таго, што ад дэклараванага раўнапраўя і двухмоўя не засталося і следу. І зноў будуць нараканні на недасканалы закон, зноў пачнуць асуджаць папярэдніх кіраўнікоў, зноў узнікне хваля новага нацыянальнага адраджэння.

Але гэта будзе ўжо новая гісторыя. Прыкра тое, што мы менш за ўсё думаем аб тым, як будзем выглядаць у вачах нашчадкаў і якія ацэнкі атрымаем ад іх за нашы сённяшнія ўчынкі.

**Валянцін ЖДАНКО.**

«Звязда»

# Тры прэміі па 20 тысяч долараў

**Кіраўніцтва Еўрапейскага саюза і ўрад ЗША ўзнагародзілі прэміямі «За дасягненні ў галіне дэмакратыі» беларускія арганізацыі Хартыю-97 і Хельсінкскі камітэт, а таксама асабіста кіраўніка Цэнтра праваой абароны СМІ Беларускай асацыяцыі журналістаў Міхаіла Пастухова.**

Прэміі ў памеры 20 тысячаў долараў кожная ўручыць у панядзелак пасол Вялікабрытаніі Джэсіка Пірс, якая адначасова з'яўляецца прадстаўніком Еўрасаюза ў нашай краіне, паколькі сёлета менавіта Брытанія ўзначальвае ЕС.

На якія патрэбы пусцяць свае грошы Хельсінкскі камітэт і Міхаіл Пастухоў — пакуль невядома, а вось хартысты ўжо вырашылі, куды патраціць «зялёныя». Як нам паведаміў прэс-сакратар Хартыі-97 Алег Бябенін, 10 тысячаў долараў пойдуць на падтрымку сем'яў палітзняволеных і пацярпелых ад рэжыму, 5 тысячаў — на ўмацаванне структураў Хартыі ў правінцыі і яшчэ 5 тысячаў — на інфармацыйную падтрымку арганізацыі, выданне праваабарончага бюлетэня і на прэміі журналістам, якія пішуць на тэму абароны правоў чалавека.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Хто ж сапраўды панясе святло?



ЛіМ

Шаноўны Ф. Шкірманкоў, прачытаўшы мой артыкул у газеце "ЛіМ" "Запаліць святло ў нашых душах", паставіў вельмі слушнае пытанне: а хто ж панясе гэтае святло ў народ?

Яшчэ з даўніх, апостальскіх часоў святло розуму, веры і надзеі несла ў народ тая элітная яго частка, якая пазней стала называцца інтэлігенцыяй. Паглядзім жа, як абстаіць справа з гэтым у нас цяпер. Не сакрэт, што народ наш сёння трагічна расколаты на дзве вельмі няроўныя паловы: нацыянальна-свядомую і нацыянальна-несвядомую яго часткі. Не сакрэт і тое, чыімі рукамі рабіўся гэты раскол. Камуністы і іх спадчыннікі з самага пачатку свайго панавання імкнуліся знішчыць менавіта беларускую нацыянальную самасвядомасць і яе носьбіта — беларускую інтэлігенцыю. Створаная імі трэшчына прайшла і па самой інтэлігенцыі. Тая яе частка, якую мае на ўвазе Ф. Шкірманкоў і якая менавіта і павінна была б распаўсюджваць гэтае святло ў народнай гушчы, сама аказалася прыніжанай да няшчаснага стану гэтай самай народнай гушчы. Сапраўды, пра якое святло можа марыць, напрыклад, сельскі настаўнік, які, каб зарабіць сабе і дзецям на хлеб, павінен ад цямна да цямна круціцца і ў школе і ў сябе на гародзе, не маючы часу нават прачытаць газету?

Тут, аднак, хацелася б спыніцца на той частцы нашай інтэлігенцыі, якая жыве ў гарадах і якая мае некаторую магчымасць уплываць на стан свядомасці народа. Калі раней менавіта гэтую частку беларускай інтэлігенцыі імкнуліся проста фізічна знішчыць, то цяпер яе, духоўна зламаную і запалоханую, стараюцца купіць ганаровымі званнямі або шматтысячадоларавымі прэміямі невядома за што. І, на жаль, часта ўладам гэта ўдаецца. Жывучы ў гарадах у непасрэднай блізкасці да начальства, якое там звычайна кіравалася Масквой і якое свядома насаджала рускую мову і культуру, гэтая інтэлігенцыя хутка адмовілася ад сваіх нацыянальных каранёў і паслужліва змяніла сваю мову на мову метраполіі, пачаўшы ганебна саромецца сваіх вясковых бацькоў і родных. Яна стала нават старацца пры выпадку перасяліцца ў Маскву, бліжэй да яшчэ больш высокага начальства, прадаючы сваё нацыянальнае першародства за сачывічную поліўку сумніўнага гонару саюзных званняў і акадэмічных чыноў. Зусім як некалі ў Чэхава: у Маскву, у Маскву, у Маскву.

Ды і самы склад нашай гарадской інтэлігенцыі аказаўся неаднародным. Вялікую яе частку сталі ўтвараць прыезджыя рускія спецыялісты, адміністратары і ваенныя, якія ў пераважнай сваёй большасці, трэба праўду ім у вочы сказаць, па спрадвечнай расійска-імперскай традыцыі не паважалі ні культуры, ні мовы "абарыгенаў". У лепшым выпадку гэта вымушана цярпелася імі як прыкметы "необразованной местной деревенщины". І гэта стала непазбежна даваць свае трагічныя вынікі. У многіх былых рэспубліках "прыезджыя" сталі балюча адчуваць нечакана для іх узнікшую нелюбоў мясцовага насельніцтва. На Беларусі гэтага пакуль што не назіраецца, хоць магчымасць такога, на жаль, ужо ёсць. Але з якой цеплынёй дабрадушныя і талерантныя па сваёй прыродзе беларусы адносяцца да тых рускіх, якія паважаюць іх мову, культуру і актыўна працуюць сёння на карысць незалежнасці і суверэнітэту Беларускай Дзяржавы! Тое, зрэшты, і раней было, калі ўспомніць такія вядомыя імёны, напрыклад, як гісторык Пічэта альбо мастацтвазнаўца Шчакаціхін.

Не сакрэт, што значную частку нашай гарадской інтэлігенцыі складаюць людзі яўрэйскага паходжання. Яўрэі, як вядома, здаўна сяліліся на беларускай зямлі, якая іх некалі гасцінна прыняла, ратуючы ад антысеміцкіх ганенняў у колішняй пратэстанцкай Еўропе. Вялікі наш Янка Купала ў вядомым вершы, спецыяльна прысвечаным яўрэям, параўноўваючы яўрэя з беларусам у тым, што абодва не маюць радзімы, заклікаў іх да супольнай барацьбы за незалежнасць. Але той жа Купала папярэджваў іх, што "не трэба хіліцца да мацнейшага", маючы на ўвазе іх даўняе імкненне пераходзіць на рускую мову і рускую культуру. Тая няшчасная, створаная векавечным прыгнечаннем схільнасць уласціва, дарэчы, і расійскім яўрэям, варта хоць бы ўспомніць скандальна вядомую яшчэ з дарэвалюцыйных часоў фразу М. Гершэнзона са зборніка "Вехи", дзе ён клікаў "благословлять эту власть, которая одна своими тюрьмами и штыками еще ограждает нас от ярости народной". У нас засталася яшчэ ад саюзна-савецкага перыяду брыдкая традыцыя ўжываць слова "сіяніст" як лаянку, у той час як яно абазначае чалавека, што змагаецца за адраджэнне сваёй гістарычнай радзімы. Такія людзі, як, напрыклад, А. Шчаранскі, заслугоўваюць глыбокай пашаны. Але і тыя, што застаюцца ў складзе прыняўшага іх народа, павінны ў адказ паважаць яго культуру і супольна змагацца за незалежнасць ягонай дзяржавы, як сваёй уласнай радзімы. І ў нас ёсць такія высакародныя і сімпатычныя прыклады. Але маюцца і іншыя, асабліва сярод пішучай брацііі, якія нават у апазіцыйнай прэсе дэманстратыўна пішуць толькі па-руску і ў артыкулах якіх ніколі не сустракаецца слова "суверэнітэт". Замест гэтага раз-пораз мільгаюць з'едліва-грэблівыя намёкі то ў адрас Вялікага княства Літоўскага, то ў адрас БНФ, то ў адрас Зянона Пазняка, гэтага сапраўднага беларускага інтэлігента. А адзін з іх нядаўна на старонках парыжскай газеты "Русская мысль" дык і ўвогуле абазваў Беларусь чорнаю дзіркай... Увогуле, метадамі дона Базіліё з вядомай оперы гэтыя людзі ніяк не грэбуюць, нават у асабістых дачыненнях.

Але самае горкае тут тое, што і некаторыя карэнныя беларусы, памяняўшы мову і нацыянальную ментальнасць, аказваюцца фактычна здраднікамі ў адносінах да свайго народа. І, будзем шчырыя, не апраўдваюць іх тут звыклыя спасылкі на веліч рускай культуры ў параўнанні з культурай беларускай і тое, што яны, маўляў, выхаваны на гэтай культуры. Забываючыся на прычыны гэтай трагічнай розніцы і блытаючы рускую культуру з расійскай імперскасцю, яны быццам бы не ведаюць, што ніхто іншы, як Пушкін, горка скардзіўся, што "черт дернул меня родиться с умом и талантом в России", а другі вялікі рускі паэт напісаў свае славутыя радкі пра "немытую Россию, страну рабов, страну господ", якія некаторыя сёння аб'яўляюць ужо "позднейшей подделкой". Абодва гэтыя вялікія прадстаўнікі вялікай рускай культуры, дарэчы, любілі і паважалі беларускі народ менавіта за яго непакорлівасць і незалежнасць. Ці ж не беларусам быў пушкінскі Уладзімір Дуброўскі, што падняў паўстанне супраць вяльможнага генерала Траекурава і выйшаў са сваімі сялянамі ў лес, як бы прадугадваючы будучую партызанскую Беларусь? Ці ж не беларускай была рамантычна прыгожая гераіня лермантаўскай паэмы "Литвинка"? І ці ж, нарэшце, не сімвалічна тое, што абодва гэтыя вялікія паэты былі забіты менавіта расійскай імперскасцю?

Ёсць, на жаль, і ў беларусаў гэтая няшчасная прывычка "хіліцца да мацнейшага". У спалучэнні з запазычанай у рускіх прывычкай "шарахання ў крайнасці" яна таксама прыводзіць некаторых нашых інтэлектуалаў да сумных вынікаў. Нават лічачы сябе беларускімі краялюбамі і гаворачы па-беларуску, яны не давяраюць здольнасці беларускага народа выпрацаваць уласную нацыянальную самасвядомасць, якую заўсёды выражае нацыянальная філасофія. У пошуках такой філасофіі яны кідаюцца ў чужыя краіны, пераважна на Захад. Прычым, як знарок, запазычваюць адтуль самыя непадыходзячыя для Беларусі філасофскія накірункі, што прапаведуюць распады, песімістычна-абсурдны дэструктывізм, хоць там ёсць і пазітыўныя ўзоры, напрыклад, пратэстанцкай і каталіцкай рэлігійнай філасофіі, якія актыўна спрычыніліся ў свой час да ўтварэння нацыянальнай самасвядомасці еўрапейскіх народаў. Назіраецца такое і ў сферы мастацтва, дзе бяруцца за ўзор зусім не тыя эстэтычныя ідэалы.

Самасвядомасць увогуле нельга проста запазычыць. Яна можа быць толькі сваёй, нацыянальнай самасвядомасцю, выпрацаванай потам, а, калі трэба, і крывёй уласнай жа, нацыянальнай інтэлігенцыі. Гэта зусім не значыць, што не трэба ўлічваць нацыянальных інтарэсаў іншых народаў, што пражываюць на Беларусі, тых жа рускіх, яўрэяў, палякаў альбо татар. Сапраўдная беларуская інтэлігенцыя глыбока паважае культуру гэтых народаў, але чакае ў адказ і адпаведнай павагі ў адрас сваёй нацыянальнай культуры. Толькі пры такой умове мы зможам сумеснымі высілкамі адстаяць незалежнасць нашай агульнай беларускай Радзімы, дзе асноўную ролю і адказнасць за лёс яе безумоўна павінна ўзяць на сябе беларуская інтэлігенцыя як прадстаўніца ўсяго беларускага народа — бальшыні насельніцтва Рэспублікі Беларусь.





Беларуская нацыянальная інтэлігенцыя і павінна несці ў народ памянёнае ў пачатку артыкула святло, святло розуму, веры і сумлення. Больш таго, яна павінна быць і факелам, што дае гэтае святло, узорам бездакорнага служэння свайму народу, узорам маральнай стойкасці, чысціні і справядлівасці. І такая інтэлігенцыя ў нас ёсць.

**М. УКОЎСКІ,**
**доктар філасофскіх навук, прафесар**

# ХАМЫ ВЫЙШЛІ З АКОПАЎ

**Усе памятаюць, як выхваляўся наш прэзідэнт у пачатку сваёй кар'еры: «У мяне самая «чэсная» каманда!» Электарат, замардаваны хабарнікамі, прайдзісветамі і камуністычным барствам, рэагаваў у адказ: «Хай маладыя, хай маладасведчаныя, хай нахабныя, але - «чэсныя», і ўсё у іх атрымаецца». Як даўно гэта было, якімі мы былі наіўнымі, як смешна цяпер успамінаць пра лёс «самай чэснай каманды»..!**

Эрудыт і лірык А.Фядута, галоўны прэзідэнцкі агітатар, яшчэ будучы на дзяржаўнай пасадзе, пісаў пад псеўданімам у апазіцыйнай прэсе опусы супраць свайго боса. Натуральна, што А.Лукашэнка праз месяц тэатральна ўзгадваў прозвішча свайго паплечніка, маўляў, ну гэты, як яго?.. Анатоль Лябедзька з даверанай асобы прэзідэнта ў парламенце ператварыўся ў самага шматслоўнага крытыка рэжыма. В.Ганчар сабраў стос матэрыялаў, якія даюць стопрацэнтную магчымасць абвяшчэння імпічменту прэзідэнта. Шустры былы віцэ-прэм'ер з «самай чэснай каманды»!

Былы міністр унутраных спраў Ю.Захаранка не захацеў ператварыцца з міністра ў дзяржмыморду - і з «самага чэснага» у вуснах боса ператварыўся ў парушальніка фінансавай дысцыпліны. Галоўны банкір С.Багданкевіч сышоў пад пагрозлівыя воклічы пра тузін «абвінавачванняў», ягоная пераемніца Т.Віннікава трапіла за краты, а наступны банкір па вызначэнню быў проста «козлом отпущения». Міністр сельскай гаспадаркі, талент эпохі развітога сацыялізму В.Лявонаў «загрымеў» як банальны дробны злодзей з базару. Лідэр гарадзенскіх руплівцаў «чэснасці» з суполкі «Очищение» С.Посахаў праславіўся атрыманнем шыкоўных апартаментаў у сталіцы. Галоўны міліцыянт В.Агалец вядомы тым, што ледзь не быў выгнаны з МУС за кватэрныя махінацыі. Прэм'ер-міністр М.Чыгір спачатку дэманстратыўна плюнуў на «самую чэсную каманду», а потым пакаяльна ад'ехаў у Маскву - перачакаць перыяд разгулу «чэснасці».

Нядаўна прэзідэнт пагражаў свайму ўраду тым, што хутка вызваліць турэмныя камеры для новых саноўных сядзельнікаў. «Усе вы -злодзеі і жулікі», - вось сённяшняя характарыстыка кіруючага класа. А што зрабілася з «чэснасцю», куды падзелася? Зрэшты, а ці была яна калі-небудзь у калідорах улады Рэспублікі Беларусь?

Відавочная перамена ацэнак і акцэнтаў сведчыць, што сумленне само па сабе не з'яўляецца і не з'яўлялася мэтаю селекцыі і працы прэзідэнцкага дзяржапарата. Калі ў гэтай камандзе і былі сумленныя людзі, то яны ўжо даўно з жахам збеглі адтуль, і адзінай сваёй праблемай бачаць тлумачэнне ўсім і кожнаму, чаму і як яны апынуліся сярод чорных палкоўнікаў і чырвоных капіталістаў. Цынічны прагматызм, выкарыстанне самых нізкіх чалавечых якасцяў, запалохванне, нацкоўванне, кампрамат, танныя маніпуляцыі, сакрэтнасць, непрыхаваная хлусня і хамства сталі штодзённай практыкай «вертыкалі». Па сасудах «вертыкалі» гэты бруд цячэ ад самага верха да апошніх звенняў дзяржаўных утварэнняў і расцякаецца па чыстых у сваёй наіўнасці душах электарата. Для тых жа, хто ў стане бачыць сапраўдны твар «самых чэсных», хто свядома не прымае ўзведзенай у закон амаральнасці, наступілі цяжкія часы душэўнага дыскамфорта. Такой адкрытай і шчырай стаўкі на амаральнасць не было нават пры камуністах, каб ім пуста...

Інтрыганы, нячыстыя кар'ерысты, мастадонты КПСС і ВЧК, людзі з падваротняў павылазілі, каб запісацца ў слугі народа. Дастаткова сказаць пароль: «Я - за прэзідэнта», - і шлях свабодны. Адукаваных, дасведчаных, прыстойных работнікаў гэта шушара травіць даносамі ў нелаяльнасці. Праўды і справядлівасці ў начальства і ў дзяржавы шукаць без сэнсу. Надзвычай людзей прыгнятае менавіта гэтая акалічнасць - адсутнасць законнасці і механізма яе абароны. Гэта пераводзіць дачыненні чалавека з дзяржавай на рэйкі асабістых канфліктаў са службовымі асобамі, распальвае варожасць і агрэсію, прымушае даваць хабар, ствараць кланы для сумеснага супрацьстаяння свавольству і нахабству чынавенства. Па краіне прайшла велізарная лінія разлому: падонкі яднаюцца з падонкамі, а людзі прыстойныя прымусова асвойваюць спосабы і метады жыцця ў воўчай зграі. Ад славутай беларускай талерантнасці нічога не засталося. Адзіным яе носьбітам застаўся, бадай што, толькі вядомы пясняр талерантнасці Станіслаў Шушкевіч.

Любое дзікунства не выклікае грамадскага абурэння (людзі жывуць самі па сабе, улада - сама па сабе, і ў гэтым - адзіны станоўчы момант). Можна пахваліць Адольфа Гітлера - і палымяных антыфашыстаў з усялякіх «органаў» патрыятычна падтакнуць: ах, як неабходны нам зараз «парадак»! Можна збіваць мірных грамадзян за ўяўную віну і, нават, без яе - маргіналы з тэлебачання адкрыта пасмяюцца над «купкай экстрэмістаў». Можна кідаць за краты дзяцей за іх палітычныя погляды - і настаўнікі на сваім зборышчы адзінадушна прагаласуюць: «Распяць іх, ерэтыкоў!» Можна... А зрэшты, чаго не можна ў нашай краіне? Пасля ліёзненскіх стрэлаў, збіцця дэпутатаў, выкрывання дзесяткаў замахаў, арыштаў міністраў, калецтва мастакоў - чаго яшчэ мы не адчулі на ўласнай скуры?

Жахаў выгнання з роднай зямлі ў ГУЛАГ? Дык аб'яднаемся з Расіяй і - без праблем. Расстрэлаў рабочых страйкаў, як у Навачаркаску ці Гданьску? Крымінальны кодэкс ужо ўсё прадугледзеў - дайце толькі крыху часу. Раскулачвання, расказачвання, харчразвёрсткі? Працэсаў над шпіёнамі і ворагамі народа? Ужывання супраць непакорных хімічнай зброі?..

Мы ўжо на прыступках «новага парадку» у «нявіданай дзяржаве ўсіх славян» ад Любляны і Прагі да Уладзівастока...

«ПАГОНЯ» **Сяргей Самасей**

*Леанід ЛЫЧ*

# АД ЗЬЕЗДУ ДА ЗЬЕЗДУ

(Спэцыяльна для "Беларускага Дайджэста")

«Працяг. Пачатак гл. у папярэднім № газэты»

У ходзе працы Зьезду высьветлілася, што пэўная частка яго дэлегатаў, пераважна з Прыднястроўя і Харкава, прынцыпова не падтрымлівае ідэі незалежнага нацыянальна-дзяржаўнага разьвіцьця Беларусі, не аддае прыярытэту яе нацыянальнай культуры і мове, выступае за поўную інтэграцыю, растварэньне нашай Бацькаўшчыны ў складзе Расеі, імкнецца раскалоць ЗБС "Бацькаўшчына" і стварыць альтэрнатыўную ёй арганізацыю, якая працавала-б у самым цесным кантакце з афіцыйнымі ўладамі, нягледзячы на тое, што ў іх і пасёньня яшчэ няма аніякай праграмы па нацыянальна-культурным адраджэньні краіны. У такой сытуацыі прэзыдыуму Зьезду трэба было-б арганізаваць сур'ёзную дыскусію з тым, каб паказаць, якую велізарную шкоду рыхтуюцца прычыніць беларускай справе яго апазыцыянеры. Замест дыскусіі выступоўцы пайшлі на ўзаемныя абвінавачваньні адзін аднаго, у выніку чаго да раскольнікаў зьезду далучыліся асобы, якія пры іншым зьбегу абставін засталіся-б на трывалых беларуска-нацыянальных пазыцыях.

Без асаблівай радасьці адзначу такі факт, што зусім нерадавая для краіны падзея — Другі зьезд беларусаў — засталася амаль незаўважанай для абсалютнай большасьці афіцыйных перыядычных выданьняў. На яе яны адгукнуліся ў асноўным толькі пасьля таго, як даведаліся, што тут не ўсё ў ажуры сярод дэлегатаў і гасьцей зьезду. Бадай, толькі адна газэта «Зьвязда» дала напярэдадні яго трохі матэрыялу прыватнага характару. Прааналізаваць-жа ўсё тое, што адбылося паміж двума зьездамі беларусаў сьвету з мэтай папярэдняга азнаямленьня нашых супляменьнікаў з палітычным, эканамічным і нацыяльна-культурным станам краіны, ніводная яе афіцыйная газэта не пажадала. Не пажадалі і ўсе астатнія. Крыху большую актыўнасьць праявілі газэты да асьвятленьня таго, што адбылося пасьля Другога Зьезду. Асабліва папулярызаваліся матэрыялы з выступленьня прэзыдэнта Беларусі А. Лукашэнкі 28 ліпеня перад той часткай дэлегатаў, якая зусім не стаіць ці стаіць вельмі хістка на нацыянальна-адраджэнскіх пазыцыях, раўнадушна да дзяржаўнай сувэрэннасьці нашай краіны. Спроба гэтай часткі дэлегатаў з дапамогай афіцыйных уладаў стварыць у якасьці альтэрнатывы ЗБС "Бацькаўшчыны" нейкую падобную арганізацыю не знайшла ў іх падтрымкі.

Абышоў маўчаньнем афіцыйны друк і зьмест тых выніковых дакумантаў, што былі прыняты дэлегатамі Другога зьезду. А на добры-ж лад, трэба было-б ня толькі такія дакуманты зьмясьціць на старонках газэт, а і сам даклад прэзыдэнта ЗБС "Бацькаўшчына" Радзіма Гарэцкага, каб людзі ведалі, у якім становішчы знаходзяцца іх супляменьнікі з блізкага і далёкага замежжа. Нічога з нашай краінай не здарылася-б, каб у гэтыя дні чытачам трохі менш падавалася матэрыялаў пра бітву за ўраджай 1997 году. Калі што з выступленьняў на зьезьдзе і друкавалася, дык гэта прамовы службовых асобаў з дзяржаўных выдавецтваў і органаў культуры.

Не памылюся, калі скажу, калі-б у час зьезду і асабліва на другі дзень пасьля яго не адбылося пэўнага скандалу паміж дэлегатамі, чытачы многіх афіцыйных газэт так-бы нічога і ня ведалі, што Менск у гэтыя дні прымаў у сябе сваіх сыноў і дачок з блізкага і далёкага замежжа. Не абмінула той канфліктнай сытуацыі і "Народная газэта", зьмясьціўшы ў сваім нумары ад 29 ліпеня невялічкі, але з кідкім загалоўкам артыкул Юры Міхайлава "Съезд белорусов мира: раскол или агитка с трезвым расчетом". Гэты форум беларусаў сьвету называецца аўтарам ні больш ні менш, як палітычным спэктаклем, у час якога зусім не пахла дэмакратыяй. Як вынікае з публікацыі Юры Міхайлава, ён на зьезьдзе не прысутнічаў, а вось ацэнку яму адважыўся даць вельмі катэгарычную. У гэтым-жа нумары "Народнай газэты" быў зьмешчаны даволі сьціпленькі паводле сваіх памераў яшчэ і артыкул Валянціны Меньшыкавай, у якім чытачу даваліся самыя фрагмэнтарныя зьвесткі пра гэтую выключнай важнасьці падзею ў жыцьці беларускага народу.

Крайне скупа адгукнуліся на яе іншыя рэспубліканскія афіцыйныя газэты, абмежаваўшыся толькі ў асноўным пераказам прамовы А. Лукашэнкі (а гэта-ж іх прамы абавязак) перад спэцыяльна адабранымі ўдзельнікамі Другога зьезду 28 ліпеня. У газэце "Вечерний Минск", якая выдаецца там, дзе праходзіў сам зьезд, нават і згаданай вышэй прамовы не пераказалі. Адвялі два абзацы сустрэчы беларусаў сьвету — і баста!

Але бадай, самай скупой на зьвесткі пра Другі зьезд беларусаў паказала сябе газэта "Белорусская нива". Магчыма не хапіла месца з-за таго, што даводзілася пісаць пра тое, што дзеялася на збожжавай ніве. Чытачам паведамілі толькі пра сустрэчу прэзыдэнта краіны з некаторымі яе супляменьнікамі з-за мяжы. І больш ні слова, хоць акурат вёска, а не горад больш за ўсё пастаралася аб колькасным росьце беларускай дыяспары.

Падзеі Другога зьезду беларусаў сьвету засталіся па-за ўвагай нашых моладзёвых газэт. "Чырвоная зьмена" абмежавалася толькі публікацыяй Белта аб сустрэчы Лукашэнкі з дэлегатамі гэтага форуму і самымі сьціплымі зьвесткамі пра яго работу. Другая-ж газэта для моладзі "Знамя юности" нават і на такі крок не пайшла. А шкада, бо моладзь мае вельмі вялікую патрэбу ведаць пра месца беларусаў у сьвеце, каб усім зьместам свайго жыцьця спрыяць росту нашага прэстыжу сярод усіх народаў плянэты Зямля.

У адпаведнасьці з сваім статусам больш-менш падрабязна інфармавала чытача з тым, што адбывалася на Другім зьезьдзе беларусаў сьвету і пасьля яго штотыднёвая газэта для суайчыньнікаў за межамі бацькаўшчыны "Голас радзімы". Яна разам з газэтай "Зьвязда" акурат была тым перыядычным органам, з якога можна было слова ў слова даведацца, чаго жадалі і што выказалі некаторыя прадстаўнікі беларускіх абшчын Прыднястроўскай Малдоўскай Рэспублікі, Мурманска, Рэспублікі Комі, Масквы, Усходняга рэгіёну Ўкраіны, Чарнігаўскай і Івана-Франкоўскай абласьцей, Кыргызстану ў сваім звароце да прэзыдэнта, парлямэнту, народу Беларусі. А хацелі-ж яны нямала — нямнога, каб на постсавецкай прасторы ўсе беларускія абшчыны аб'ядналіся і стварылі ў процівагу ЗБС "Бацькаўшчына" "новую арганізацыю, якая-б выказвала спадзяваньні і інтарэсы не нацыяналістаў, якія ідуць у фарватары інтарэсаў заходніх дзяржаў, а большасьці беларускага народа". Стварэньне такой арганізацыі азначала-б поўны раскол у беларускай дыяспары і не прынесла-б аніякай карысьці для агульнай справы. Відаць, гэта зразумелі ў высокіх эшалонах дзяржаўнай улады і таму не задаволілі просьбы падпісантаў Звароту, што, вядома, не азначае, што сярод беларусаў блізкага і далёкага замежжа не адбылося істотнай палярызацыі. Яна навідавоку і яе ўсяляк трэба імкнуцца зьвесьці да нуля, каб гэтая хвароба не набыла хранічнага характару. На вялікі жаль, у сваім змаганьні за нацыянальныя інтарэсы нам заўсёды даводзілася мець справу з рознага роду раскольнікамі ў сваіх шэрагах, а каб ад такой непажаданай зьявы ўдавалася своечасова ўхіляцца, мы не ў такіх вялікіх памерах несьлі-б страты ў пэрыяд барацьбы савецкіх рэпрэсіўных органаў з надуманымі ворагамі народаў, у разрад якіх трапіла ўсё лепшае, што было ў беларускай нацыі.

Мяркую, ня толькі я, але і многія значна больш чакалі ў тыя дні інфармацыйнага матэрыялу ад газэты "Літаратура і мастацтва". З да-і пасьлязьездаўскіх публікацыяў не варты быць адзначаны артыкулы Кірылы Пазьняка "Будзьма разам, беларусы" (25 ліпеня) і "Вопыт беларускай талерантнасьці" (1 жніўня). Шкада, што і ў гэтай газэце не знайшлося месца, каб даць грунтоўны аналіз сучаснага стану беларускай дыяспары, высьветліць яе магчымасьці ўплываць на актывізацыю працэсу нашага нацыянальна-культурнага Адраджэньня. А патрэба ва ўзмацненьні такога ўплыву з боку нашых замежных супляменьнікаў вельмі вялікая, бо пры пасыўным удзеле самой дзяржавы ў адраджэнскіх справах вельмі складана толькі яе апантаным нацыянальнай ідэяй людзям (якіх, на жаль, так нестае) зрабіць штосьці важнае на гэтым шляху.

Шэраг зусім неаналітычнага характару публікацыяў пра разгляданую падзею зьявіўся ў газэце "Свабода". І ўсё-ж важна, што сярод іх былі невялікія паводле памераў інтэрв'ю старшыні ЗБС "Бацькаўшчына" Ганны Сурмач і ліст удзельніка зьезду Аляксея Саламонава, з якіх чытач змог пачарпнуць такую інфармацыю, што адсутнічала ў афіцыйным друку. *Названыя аўтары адмаўляюць*, што ўсё тое, што адбывалася на зьезьдзе і пасьля яго, ужо прывяло ці прывядзе да расколу беларускай дыяспары. Хацелася-б, каб такога і сапраўды не здарылася, але сымптомы яго ўсё-такі адчуваюцца і наперад ніхто ня скажа, пойдуць яны на спад ці на ўзмацненьне. Думаю, што трэба прыкласьці — і прычым неадкладна — усе намаганьні, каб утаймаваць сілы разбурэньня еднасьці беларускай супольнасьці ў сьвеце, дзе-б яны толькі ні праяўляліся — у роднай хаце ці за мяжой.

Чакалася, што шмат увагі асьвятленьню работы зьезда надасьць такая папулярная ў краіне газэта, як "Народная воля". Але яна ўпарта маўчала, не паведаўшы сваім чытачам ні слова пра гэта аж да 30 ліпеня. Затое названая газэта была адзінай, якая хоць і са спазьненьнем (22 жніўня), але ўсё-ж зьмясьціла поўны тэкст дакладу прэзыдэнта ЗБС "Бацькаўшчына" Радзіма Гарэцкага.

У чытача, напэўна, выкліча зацікаўленасьць, як да падзеі, што разглядаецца ў нашым артыкуле, паставіўся беларускі замежны друк. Спынюся на восьмым (жнівеньскім) нумары газэты беларускага замежжа ў Амэрыцы «Беларускі Дайджэст» за 1997 год. У ім рэдакцыя заявіла наступнае: "Мы даведаліся, што новая Ўправа Згуртаваньня Беларусаў Сьвету "Бацькаўшчына" засталася ў старым складзе... А шкода, бо трэба было выбраць зусім новую Ўправу, бо, на нашу думку, старая Ўправа сябе не апраўдала".

Бясспрэчна, за ўсе хібы ў працы ЗБС "Бацькаўшчына" ў апошнія гады, за да канца не прадуманую арганізацыю правядзеньня і саму працу Другога зьезду беларусаў сьвету ніхто не нясе адказнасьці, акрамя Ўправы. Але ўсё-ж трэба ўлічваць, у якой складанай сытуацыі ёй даводзілася і даводзіцца працаваць.

У гэтым-жа нумары газэты "Беларускі Дайджэст" дэлегацыя ЗБС "Бацькаўшчына" сурова крытыкуецца за тое, што яна "хадзіла да рускага шавініста і ненавісьніка ўсяго беларускага — Уладзіміра Замяталіна прасіць дазволу правесьці Зьезд Беларусаў Сьвету ў Менску. Гэта-ж сорамна і нізка... Вось да чаго дажыліся беларусы ў Беларусі..." Каб аўтар вышэй прыведзенай цытаты добра ведаў сытуацыю напярэдадні Другога зьезду беларусаў сьвету, ён, напэўна, не напісаў-бы такога. Прашу яго хоць на хвілiначку ўявіць такое: Менск, 25 ліпеня... Групамі ці па адным зьязджаюцца дэлегаты. Іх першае пытаньне: "Дзе будзе праходзіць зьезд?", на якое атрымліваюць адказ: "Пакуль што не вядома. Афіцыйнага дазволу не атрымана ад уладаў". Нядзіўна, што ў такой сытуацыі падасіся і да Замяталіна, абы каб толькі атрымаць памешканьне. І людзі падаліся ў яго апартамэнты. З усёй паўнатой адказнасьці магу заявіць, што ў выніку такой вымушанай акцыі ў іх на першым месцы было не ўгодніцтва перад высокай службовай асобай, а шчырае жаданьне пасадзейнічаць агульнай беларускай справе.

А цяпер адносна думкі "Беларускага Дайджэста": "...старая Ўправа сябе не апраўдала". Відаць, усё-ж апраўдала, бо за яе паўторнае абраньне прагаласавала абсалютная большасьць дэлегатаў зьезду. Зразумела, хібаў у яе дзейнасьці хапала і самая сур'ёзная з іх — гэта незабясьпячэньне выхаду ў сьвет бясцэннейшых матэрыялаў Першага сходу беларусаў блізкага замежжа і Першага зьезду беларусаў сьвету. Трэба было дзеля надрукаваньня гэтых матэрыялаў эканоміць на ўсім, у тым ліку і на выдатках па ўтрыманьні найбольш фінансава заможных дэлегатаў сходу і зьезду падчас іх знаходжаньня ў Менску; і на камандзіроўках сяброў Управы ў краіны далёкага замежжа, тым больш, што там, дзе ім удалося пабываць, не было праяўлена якойсьці асаблівай актыўнасьці ў пасылцы дэлегатаў і гасьцей на Другі зьезд беларусаў сьвету; і на аплату артыстаў, што рэгулярна выступаюць перад нашымі суродзічамі па прыезьдзе ў Менск; на арганізацыю экскурсіяў і правядзеньне іншых мерапрыемстваў. Людзі зразумелі-б, што ўсё гэта тлумачыцца бядотным фінансавым становішчам ЗБС "Бацькаўшчына".

Ніяк нельга апраўдаць Управу, што за даволі працяглы час свайго існаваньня яна так і не змагла наладзіць выданьня ўласнага друкаванага органа, без якога практычна немагчыма дасягнуць якога-небудзь прыкметнага посьпеху ў працы. Іншыя грамадзка-палітычныя і культурна-асьветныя арганізацыі неяк умеюць шукаць спонсараў, прыцягваць у свае структуры асобаў, што пры грашах, рэгулярна арганізуюць зборы іх сярод сваіх-жа сяброў.

Нягледзячы на ўсё тое, што адбылося на Другім зьезьдзе беларусаў сьвету і што пры справе і надалей засталіся былыя кіраўнікі Ўправы, нам трэба ў цеснай супольнасьці працягваць працаваць, бо наша нацыянальнае жыцьцё няспынна пагаршаецца, народ асымілюецца.

Выратаваньнем яго ад немінучай этнічнай сьмерці дзяржаўныя структуры зусім не займаюцца, наадварот, апошнім часам яны да такой ступені ўзмоцнілі рускі культурна-моўны пласт у дзейнасьці органаў улады і кіраваньня, установ адукацыі, сродках масавай інфармацыі, што ён стаў намнога дужэйшым, чым як быў напярэдадні гарбачоўскай "перабудовы". Шкада, што гэта як сьлед не хваліюе інтэлігенцыю, якая ва ўсіх народаў была і застаецца галоўным рухавіком нацыянальнага Адраджэньня. У нас-жа яна і пасёньня ў пераважнай сваёй большасьці не зьяўляецца носьбітам беларускіх культурна-моўных традыцыяў, бездакорна выконвае здавалася-б зусім неўласьцівы для такой катэгорыі людзей функцыі па асыміляцыі ўласнага народу.

З улікам такой няпростай сытуацыі ўсе адданыя нацыянальнай ідэі асяродкі нашых супляменьнікаў як блізкага, так і далёкага замежжа, а таксама беларусы мэтраполіі павінны працягнуць адзін аднаму братэрскія рукі, шукаць узаемнай

згоды дзеля ўсебаковага і глыбокага абмеркаваньня архіважнага пытаньня па выратаваньні беларускай нацыі ад такой рэальнай у нашыя дні яе этнічнай сьмерці. Калі дзяржава нічога ня робіць па яе прадухіленьні, гэтым трэба неадкладна і ўшчыльнуюю заняцца тым, у каго яшчэ застаўся дух беларускасьці. Пакуь ён яшчэ цалкам не выпетрыўся, трэба ратаваць беларускі народ. І годзе саромецца сказаць пра яго горкую праўду сусьветнай грамадзкасьці і зьвярнуцца па дапамогу. А то па прыкладзе многіх афіцыйных асобаў, якія так любяць заяўляць сьвету, што беларускі народ, маўляў, пасьпяхова прайшоў праз усе выпрабаваньні часу, захаваў сваю мову, мае ўсе ўмовы для самабытнага нацыянальна-культурнага разьвіцьця, шмат хто і з тых, хто павінен гаварыць пра нашу бяду без усялякіх прыкрас, не даюць аб'ектыўнай інфармацыі пра яе сусьветным колам. На нашай чарговай сустрэчы, якая можа мець назву канфэрэнцыя, зьезд, сымпозіюм, сэмінар ці якое-небудзь іншае найменьне, мы інакш ня можам сфармуляваць парадак яе дня, як «Прычыны і шляхі выратаваньня беларускага народу ад канчатковай этнічнай дэградацыі» і прынятыя дакументы высылаць на адрас усіх міждзяржаўных і культурна-асьветніцкіх арганізацыяў сьвету, многіх вядомых палітыкаў, дзеячаў навукі і культуры. Ня думаю, што яны праявяць поўную абыякавасьць і раўнадушша да трагічнага лёсу беларускага народу. Калі мы сёньня ня зробім рашучых крокаў па яго выратаваньні, заўтра на парадак любой сумеснай сустрэчы беларусаў блізкага і далёкага замежжа давядзецца вынесьці тэму «Прычыны поўнай страты беларускай прысутнасьці ў мэтраполіі і па-за яе межамі». Ня ведаю, як паставяцца да абмеркаваньня дадзенай праблемы мае знаёмыя...

Ад рэдакцыі: Беларусы замежжа добра ведалі пра сытуацыю, якая панавала і пануе ў Беларусі... і таму настойліва прасілі Ўправу правесьці Другі зьезд беларусаў сьвету ў Беластоку ці Вільні, але да нас не хацелі прыслухацца... Цяпер маем тое, што маем...



## II Зьезд беларусаў Балтыі

адбудзецца 25-26 ліпеня ў Вільні. На зьезд запрашаюцца беларусы зь Літвы, Латвіі, Эстоніі, Польшчы, Калініградзкай вобласьці й Беларусі.

**Мэта зьезду наладзіць больш сьціслыя кантакты паміж беларусамі названых краінаў, акрэсьліць галоўныя напрамкі дзейнасьці, пазнаёміцца з праблемамі, зь якімі сутыкаецца беларускі рух у Прыбалтыцы.**

На зьезьдзе прадугледжаная багатая культурная праграма.

З радасьцю будзем вітаць і беларусаў зь іншых краінаў, якія пажадаюць прыехаць на нашую імпрэзу ў сваю гістарычную сталіцу Вільню.

Заявы й прапановы наконт правядзеньня зьезду накіроўвайце на адрас рэдакцыі альбо тэлефануйце: **61 65 32, 72 55 95**

***Арганізацыйны камітэт***

# Нашы прагнозы

ЛіМ

НАДТА Ж СПАКУСЛІВЫМІ з'яўляюцца спробы зірнуць у будучыню. Бяздольныя хацелі б верыць, што яны пазбавяцца ад сваіх бедаў, багатыя — бачыць памножанымі свае набыткі, а цэлыя народы? Тым больш канкрэтна — беларусы? Спробу такую зрабіў Алесь Гібок-Гібкоўскі ў артыкуле "Куды ідзём мы... з Пятачком, або Некалькі шляхоў будучыні Беларусі" ("ЛіМ" ад 3 красавіка г.г.). Ён разглядае розныя варыянты магчымых пошукаў той будучыні для нашага народа — тут і нейкія перспектывы палітыкі сучаснага кіраўніцтва, і разважанні над ідэйнымі канцэпцыямі лідэраў БНФ ды і такіх людзей або грамадскіх сіл, якія ў перспектыве — і бліжэйшай, і далейшай — ніякага ўплыву на лёс Беларусі аказаць не здолеюць. Наогул жа я з уласнага вопыту і, магчыма, з вопыту свайго пакалення магу сцвярджаць, што ніхто і ніколі з тых, каго я знаў, не даваў рады прадбачыць рэальную будучыню. Хто ж гэта мог нейкіх 10 гадоў таму назад прадказаць той катаклізм, у выніку якога ў мірных умовах разваліўся "союз нерушимый республик свободных", сцэментаваны такімі магутнымі структурамі, як партыя, органы дзяржаўнай бяспекі, надзейна падабраная адміністрацыя на ўсіх узроўнях дзяржаўнага кіравання, як манаполія на ўсе сродкі масавай інфармацыі? А тут усё развалілася, і Беларусь аказалася суверэннай дзяржавай.

Пры чытанні артыкула А. Гібка-Гібкоўскага нараджаюцца сустрэчныя пытанні або ўсплываюць свае ўласныя меркаванні. Некаторыя з іх і хацелася б закрануць.

На першым месцы аказваецца тут — зусім натуральна і апраўдана — праблема саюза Беларусі і Расіі або нават іх аб'яднання. А ці рэальная гэтая справа? Пакуль што тыя перагаворы і пагадненні, якія падпісваюцца, ператвараюцца ўсяго толькі ў дэкларацыі аб намерах, пазбаўленыя рэальнага сэнсу, але разлічаныя на знешні, прапагандысцкі эфект. Ёсць, праўда, людзі, якія робяць выгляд, быццам успрымаюць усё гэта зусім сур'ёзна. Прадстаўнікі ўлады, каб заваяваць сімпатыі значнай часткі насельніцтва Беларусі, на кожным кроку падрэсліваюць сваю нястомную дзейнасць на ніве інтэграцыі славянскіх народаў. Затое ж лідэр БНФ, надзейна схаваўшыся за мяжою, усімі сіламі ратуе нас ад смяротнай пагрозы крывавжэрнага маскоўскага імперыялізму, які намагаецца праглынуць нашу даверлівую, але недастаткова дасведчаную Беларусь. Пры гэтым забываецца чамусьці, што не хто іншы, як той самы Ельцын адным ударам рассек вузел, які да таго часу непарушна — можна сказаць, жалезна — сціскаў славянскае ядро ўсяго саюза. І пакуль Ельцын сядзіць на крамлёўскім троне, ніякі рэальны аншлюс нам не пагражае.

Паспрабуем паразважаць і пра саюз і пра аб'яднанне. Як сказана ў багдановічаўскім "Апавяданні аб іконніку і залатару...", "Чалавек разумны да прыкладаў розных ахвотна звяртаецца, думку сваю выкладаючы..." Вось, скажам, вяроўку, якою абвязваюць воз сена — у нас яе прыцягай называлі, — пасеклі на некалькі кавалкаў. А потым рабілі выгляд, быццам гэтыя кавалкі саштукоўваюць, прыткнуўшы ці нават прыціснуўшы адзін да аднаго. (Такую самую працэдуру можна зрабіць было б і з Гордзіевым вузлом). І што атрымаецца з такога саштукоўвання? Нас, аднак, пераконваюць: "Мы ж прыціснулі кавалак да кавалка, два кавалкі зусім шчыльна аб'ядналі". Ну і паспрабуйце такой прыцягай абгарнуць воз сена. А нам кажуць: "Мы ўжо ў саюзе жывём".

Можа, тыя, што так робяць, не разумеюць таго, што адбываецца? Яны ж з такім сур'ёзным выглядам усё гэта дэманструюць? І нават цалуюцца пры гэтым. Але мы ўжо не першы раз становімся сведкамі палітычных спектакляў на найвышэйшым узроўні. Згадаем, як у 1993 г. так упэўнена набліжалася аб'яднанне беларускіх і рускіх грашовых сістэм, закліканае нас ашчаслівіць. Усё ўжо было канчаткова ўзгоднена двума прэм'ерамі — Кебічам і Чарнамырдзіным. Шмат шуму было, у выніку чаго знаходзіліся людзі, якія змікіцілі, што ў сувязі з такім блізкім аб'яднаннем дзвюх нераўнацэнных грашовых сістэм нешта ўдасца нам, беларусам, падзарабіць. І калі ў каго-небудзь была замежная валюта, то выгадна было яе чым найхутчэй збыць, каб пасля аб'яднання купіць сабе значна большую колькасць долараў або марак. Такую магчымасць падказвалі і некаторыя газеты. Можна толькі сабе ўявіць, што рабілі людзі з асяроддзя Кебіча, якія загадзя ведалі, што тое так званае аб'яднанне — усяго толькі буйнамаштабная махлярская аперацыя, якая ажыццяўлялася на ўзроўні прэм'ераў. Адзін Бог ведае, колькі людзей такім хітрым чынам удалося абкебічыць.

А ўсё ж такі што нам свеціць? Справа саюза або аб'яднання — рэальная, ці гэта ўсяго толькі прывід, які мроіцца ў тумане? Мне чамусьці думаецца, што пакуль у прэзідэнцкім крэсле сядзіць Ельцын або калі б на змену яму прыйшоў нейкі Яўлінскі, то рэальны саюз не прадбачыцца, як бы з-за гэтага ні перажывалі адны і ні цешыліся іншыя. Аднак эра Ельцына канчаецца, ён здзейсніў антысавецкі пераварот, але па новых законах палітычнай гульні ён вымушаны будзе неўзабаве пакінуць свой трон у Крамлі. А яшчэ ў Расіі адбудуцца парламенцкія выбары. І як гэта ні дзіўна, але лёс Беларусі будзе вырашацца на чарговых парламенцкіх і прэзідэнцкіх выбарах у Расіі. Бо калі там да ўлады вернуцца камуністы, то на працягу вельмі кароткага часу Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка стане часткай і надзейнай апорай аднаўленага (праўда, у вузейшых памерах) "саюза рэспублік свабодных", заняўшы там ганаровае месца. Пры гэтым я не надта здзівіўся б, калі б нашы ды і не толькі нашы стратэгі прыдумалі варыянт, пры якім беларускі прэзідэнт прыняў бы ўдзел у расійскіх прэзідэнцкіх выбарах. Улічваючы яго злаквентнасць, г. зн. красамоўства, ён мог бы значна апярэдзіць розных канкурэнтаў і дасягнуць таго, чаго не даў бы рады, напрыклад, Зюганаў. Калі б рускія камуністы знайшлі спосаб пазбавіцца розных персанальных амбіцый і зрабіць сваім лідэрам нашага прэзідэнта ды яшчэ падабралі яму штаб мудрых саветнікаў, то іх шанцы ў значнай меры выраслі б. У свой час палякі-каталікі бралі сабе ў каралі то нехрысця Уладзіслава Ягайлу, то француза Генрыха Валуа, то сяміградскага ваяводу Стэфана Баторыя, то прадстаўнікоў шведскай дынастыі Вазаў, то саксонскай дынастыі Ветынаў. На гэтую ж тэму вяліся гаворкі і з рускімі царамі, у тым ліку і з Іванам Грозным. То хіба ж больш складана рускім камуністам было б пазычыць сабе кіраўніка ў Беларусі? Але для рэальнага поспеху ўсё роўна трэба было б вельмі ж крытычна падысці да свайго палітычнага радаводу, а затым і паспавядацца перад народам.

А ўсё ж такі ці можа Бог дазволіць камуністам зноў вярнуцца да ўлады? Бо кажуць, што ўсякая ўлада ад Бога. Каб пашукаць адказ на пытанне, паспрабуем зірнуць па баках. Як бы гэта ні ўяўлялася нерэальным па самых розных прычынах, але ў суседняй Рэчыпаспалітай, небывала прававерны каталіцкі народ якое ніколі не грашыў празмернай любоўю да сацыялістычнай сістэмы, аднак у свабодных дэмакратычных выбарах неяк раней памяняў сваю родную "Салідарнасць" на колішніх камуністаў ды і прэзідэнтам абраў былога лідэра камуністаў Квасьнеўскага, адправіўшы ў адстаўку легендарнага, але неадукаванага і касалапага на язык Валэнсу. Ды і ў Літве ў свой час найбольш папулярным палітыкам аказаўся колішні кіраўнік камуністаў Бразаўскас. І прэзідэнтам выбралі яго, а не Ландсбергіса, найбольш непрымірымага праціўніка саветчыны і маскалёў. А народ літоўскі не такі ціхамірны, як беларускі, і абы-каму падпарадкоўвацца не захоча.

Калі браць наогул, то ў Расіі ўмовы для камуністаў павінны быць непараўнальна больш ласкавымі, чым у Польшчы або Літве. Нядаўна гаварылі па тэлебачанні з Масквы, што недзе там шахцёры аб'явілі галадоўку, бо ў красавіку гэтага года атрымалі зарплату толькі за май мінулага года. Што-што, а ўжо своечасовую выплату зарплаты камуністы могуць гарантаваць. А чаго варта ўся гісторыя з Чачнёй? Ды згадаем яшчэ такую небывала важную дзяржаўную праблему, як справа пахавання апошняга цара. Колькі тут было праяўлена клопату на найвышэйшым дзяржаўным узроўні, колькі мерапрыемстваў ажыццявілася, як плённа і самаахвярна працуюць урадавыя камісіі! Дзе тут будзеш думаць пра нейкую там своечасовую зарплату, калі тут такія важныя справы нахлынулі!

А калі быць шчырым, то вось дзе камуністам можна было б паказаць сваю вынаходлівасць і прынцыповасць. Яны чамусьці прапускаюць "пенкную аказію" дамагацца найбольш урачыстага абвяшчэння цара Мікалая II святым-найсвяцейшым усёй зямлі Вялікарускай — і гэта за небывалыя заслугі перад справай сацыялізму і перад нацыянальна-вызваленчым рухам. Бо хіба ж хто-небудзь дасць рады аспрэчваць, што калі б ён не ўцягнуў Расію ў першую сусветную вайну, то ці адбылася б Лютаўская рэвалюцыя, а ўслед за ёю і Кастрычніцкая? І ці вызваліліся б канчаткова Фінляндыя, Эстонія, Латвія, Літва і, вядома, Польшча? І ці нарадзілася б савецкая ўлада на шостай частцы планеты? Колькі помнікаў за ўсё гэта трэба было б паставіць! Але чамусьці дзяржаўныя камісіі, губернатары ды і камуністы маўчаць пра гэтыя заслугі. Дык дзе ж тут справядлівасць?

Калі ўжо гаварыць сур'ёзна, то ў камуністаў рэальных шанцаў не будзе, пакуль яны дакладна не прааналізуюць і не пакажуць грамадству тыя прычыны, якія прывялі да краху іх сістэму. Бо калі б яны праявілі мужнасць і асудзілі ўсе злачынствы бальшавіцкага кіраўніцтва (прыкладам тут мог бы паслужыць XX з'езд КПСС), то маглі б змяніцца адносіны да іх і творчай інтэлігенцыі і тэлебачання, і радыё, і наогул грамадскасці. Тут трэба было б зрабіць шмат балючых прызнанняў і пра калектывізацыю, і пра лагеры здзеку і смерці, і пра тое, якой цаной на працягу ўсіх гадоў рыўся дол для капіталу ды і як прыціскаліся найэлементарнейшыя правы грамадзян у паўсядзённым жыцці.

Для чаго нашай былой краіне трэба было выкідваць штогод многія мільярды долараў на вецер? Ідэя сусветнага бальшавіцкага панавання з'явілася адной з прычын краху сацыялістычнай сістэмы. Бо велізарнейшыя рэсурсы шостай часткі ішлі не на павышэнне дабрабыту народа, а на розныя авантуры ў Азіі, Афрыцы, Лацінскай Амерыцы ды на ваенныя базы ў Еўропе, а потым на вайну ў Афганістане. Між тым нашы гора-палітыкі яшчэ і сёння ўяўляюць, быццам там савецкія салдаты выконвалі свой інтэрнацыянальны доўг і таму называюцца воінамі-інтэрнацыяналістамі. Вось якое абсурднае ўяўленне ўкаранілася ў мазгі некаторых дзеячаў.

Як бы там ні было, але за гістарычным парогам аказалася тая дактрына, ад якой так лёгка пазбавіліся ды адхрысціліся некаторыя колішнія правадыры нашага роднага пралетарыяту накшталт Якаўлева, Шэварднадзе, Аліева або галоўнага чырвонаармейскага палітрука Валкагонава. А чаго вартымі без улады аказаліся такія колішнія лідэры, як Лігачоў, Рыжкоў, Лук'янаў? А ці ачысціўся Зюганаў ад усіх тых хвароб, якія пагубілі сацыялістычную сістэму? Не будзем забываць, што ў XIX і пачатку XX ст. іменна з сацыялізмам нашы продкі звязвалі свае светлыя надзеі на выратаванне чалавецтва, на ўсталяванне найбольш справядлівага грамадскага сацыяльнага ладу. Ды і савецкі лад шмат чаго даў людзям: права на працу і адпачынак, права на адукацыю і ахову здароўя, на танны праезд у гарадскім транспарце, на танную кніжку... Ды хіба ж можна ўсё пералічыць?

А чаго можна чакаць ад БНФ? Калісьці можна было чакаць ад аб'яднання сур'ёзных здзяйсненняў. Аднак лідэр фронту неаднаразова бліскуча даказваў, што ён зусім не разумее беларускіх рэалій — перш за ўсё ўплыву рускіх культурных і моўных традыцый, прытым не толькі ў асяроддзі людзей, якія прыбылі сюды з усходу і тут знайшлі сабе надзейнае прыстанішча і найбольш спрыяльную ва ўсіх адносінах атмасферу. Але і ў асяроддзі карэнных жыхароў зямлі, многіх "тутэйшых". Вядома, беларус сёння мог бы паўтарыць ясенінскае "в своей стране я словно иностранец". Аднак любыя спробы супрацьпастаўляць гэтаму становішчу адкрытую русафобію, нянавісць да ўсяго рускага могуць мець толькі сумныя вынікі і закончыцца безнадзейным правалам. Тут не Эстонія і не Латвія, і рускія тут адчуваюць сябе лепш, чым беларусы ў Расіі. Бо і беларусы ў Расіі, і рускія ў Беларусі аднолькава карыстаюцца рускай мовай. Іншай мовы і наш прэзідэнт не прызнае, адкрыта, усенародна парушаючы законы аб роўных правах дзвюх дзяржаўных моў. А па прыкладзе прэзідэнта і ўсё кіраўніцтва дзяржавы. Ствараецца ўражанне, што камусьці законы не пісаны.

Наогул жа калі разглядаць нашу будучыню, то трэба мець на ўвазе не толькі магчымыя варыянты палітычнага жыцця, але таксама і моўную сітуацыю і справу развіцця нацыянальнай культуры. Бо на нашым хітрым свеце ўсё ўзаемазвязана і ўзаемаабумоўлена.

**Уладзімір КАЗБЯРУК**

# Віртуальная Беларусь

Валянцін АКУДОВІЧ



## ПРЭАМБУЛА

1995 год, Майскі рэферэндум...

Нават беручы пад увагу некарэктнасць (з розных гледзішчаў) прапанаваных на рэферэндум пытанняў і спрэчнасць выніковых лічбаў, немагчыма ўсё ж пярэчыць відавочнаму: для пераважнай большасці беларусаў (тут дакладней будзе сказаць: насельнікаў Беларусі) Беларусь не ёсць каштоўнасцю ні ў выяве мовы, ні ў выяве гісторыі і культуры, ні ў выяве незалежнасці.

Нарэшце "заглянула сонца і ў наша аконца" і мы ўбачылі тое, пра што, будзем шчырымі, даўно ведалі,але чаму раней, асабліва ў нядаўніх прыцемках адраджэнскага ранку, неяк атрымлівалася не даваць веры.

Першыя дні і тыдні пасля рэферэндуму і цяпер, ужо амаль праз тры гады, ніякавата згадваць. "Нацыянальна свядомыя", што тыя совы, якіх дзень заспеў на голай выспе, адно разгублена лыпалі вачыма і безнадзейна сноўдаліся з месца на месца, не ведаючы, куды падзецца ад невыноснага святла... Не ратавалі ні гарэлка, ні распуста...

З адчаю хаваліся ў сябе — там была ноч.

Асабіста мне тады марылася толькі пра адно, каб як мага хутчэй прамінулі гэтыя першыя дні, тыдні, месяцы і "светлая ява" сталася панылай звыкласцю, бо трэба ж было неяк жыць далей, прызвычайвацца да новых стандартаў, спакваля асвойтваць іншую рэальнасць і неўпрыкмет стасаваць да яе рэшткі былых ілюзіяў.

Хаця ілюзіяў, здаецца, амаль не засталося, паколькі мяне не гаіла (як, бадай, многіх) адчайная нянавісць да тых, хто зьніцыяваў і зладзіў рэферэндум; я і ў адчаі выразна ўсведамляў, што не яны стварылі тую сітуацыю, якую мы мелі, - яны толькі скарысталі яе ў сваіх мэтах (ці — што больш верагодна, — яны самі, з усімі сваімі ініцыятывамі, былі "палонам" гэтай сітуацыі). Але тут рэч *не пра тых, хто скарыстаў сітуацыю, а пра тых, каго скарысталі, а найперш пра тых*, для каго рэферэндум жорстка і бязлітасна выявіў ды прадэманстраваў, што ў нас ёсць і чаго ў нас няма.

Беларусаў трохі ёсць, а Беларусі няма — у сэнсе цэласнага жыццядайнага нацыянальнага арганізму, які б запатрабаваў дзеля свайго развою і бяспекі **нацыянальнай** дзяржавы.

Няма такой Беларусі і цяпер, але і ў будучым яе не бачна, хаця якраз на "будучыню" шмат хто тады спадзяваўся (спадзяецца і зараз): неўзабаве ўсё неяк пераменіцца, да ўлады далнуць "нашыя" і мы здабудзем памысную Беларусь... (Калі б "нашыя" маглі неўзабаве ці хаця б у бліжэйшай перспектыве займець уладу, то Аляксандр Лукашэнка, з яго не абы-якой палітычнай інтуіцыяй, ужо даўно быў бы "нашым").

Але калі б нават нейкім цудам нешта ўзяло ды кардынальна перамянілася і "нашыя" прыйшлі да ўлады (як прыйшлі б, так і пайшлі б), то што з гэтага не фармальна, а сутнасна зрушылася б у сітуацыі?

Безумоўна, фармальна, вонкава, намінатыўна сёе-тое выдавала б на лепшае ў нашым разуменні лепшага (трохі прыпынілася б русіфікацыя школ, вярнулася б гістарычная сімволіка, што-кольвек яшчэ...), аднак і тая **дэкларатыўна нацыянальная** дзяржава рэальна была б сацыяльнай дзяржавай (дзе нелігітымна панавала б ідэалогія сацыяльных даброт, гэта значыць ідэалогія "каўбасы" і курсу долара, а не нацыянальнай культуры, мовы, незалежнасці), і ў той, "нашай" дзяржаве "свядомаму беларусу" было б пэўна гэтак жа няўтульна, як і сёння — а можа, і яшчэ няўтульней, — і на вуліцы, і на службе, і самнасам, бо і тады ён быў бы ва ўнутранай эміграцыі адносна чужароднага яму соцыуму.

Прыкладна гэтак (слушна ці не — іншая рэч) я разважаў у тыя першыя тыдні і месяцы пасля рэферэндуму...

— Няўжо нам, "свядомым", — думаў я ў падсумаванне, — нічога іншага не застаецца, як пражыць жыццё і памерці чужынцамі на сваёй зямлі, ды яшчэ той самы бяздольны лёс пакінуць сваім дзецям, якія з нашай волі ці нават паўз яе панабіраліся ад нас гэтай заразы — беларусаманіі?

## ЙОХАН ХЕЙЗІНГА І МРОІ ПРА ВІРТУАЛЬНУЮ ДЗЯРЖАВУ

Цяпер ужо не памятаю, скуль непасрэдна ўзнікла думка, з якой я потым, як дурань з пісанай торбай, цягаўся некалькі дзён запар. Хаця напэўна яна пачаткавалася недзе ля відавочнай тэзы: большасць насельнікаў Беларусі (блізу шасці мільёнаў) прагаласавала за сацыяльную дзяржаву. Добра, іх болей, яны перамаглі, дык хай сабе і ладзяць жытво, як ім падабаецца. Але чаму з іх перамогі мусяць пераможаныя пачувацца ў скрусе, да таго ж не прыхадні, а таксама тубыльцы гэтага краю? Як-ніяк, не за "барбарскімі" часамі жывём, дэмакратыя наўкола, а дэмакратыя, як вядома, гэта найперш павага і забеспячэнне правоў меншасці. Тым болей, што не такая яна ўжо і малая, гэтая меншыня, якая аддала перавагу нацыянальнай дзяржаве (блізу двух мільёнаў; а хай сабе і мільён).

— Дык чаму гэтыя два мільёны (а хай сабе і мільён) не могуць жыць, як цывілізаваныя людзі, мець *свайго* прэзідэнта, *свой* парламент і ўсе астатнія палітычныя і грамадскія інстытуты? — запытаўся я сам у сябе.

Узважыўшы пытанне, таксама сам сабе, слушна адказаў:

— Дык таму!

Безумоўна, можна было б прапанаваць усім "свядомым" з'ехацца на жытло ў нейкую адну вобласць і зладзіць там нешта падобнае да нацыянальнай аўтаноміі, толькі беларусы не габрэі, за белы свет без прынукі не пацягнуцца, ды і дзіўна было б чакаць ад беларуса, што ён кіне бацькоўскае котлішча ці абжытую "хрушчоўку" ў Серабранцы альбо на Ангарскай дзеля таго, каб недзе ў іншым месцы лаяцца з суседам па-беларуску і на першае мая над ганкам вывешваць не чырвона-зялёны, а бел-чырвона-белы сцяг.

Адным словам, як я ні круціў мазгамі, заўсёды атрымлівалася тое самае: у прасторы аднаго топаса няма разам месца сацыяльнай і нацыянальнай дзяржавам... А з гэтага бясспрэчна вынікала, што "свядомым" нічога іншага не застаецца, як гібець кожнаму паасобку ў сваім катуху, пакуль не павымiраюць усе да апошняга, што тыя яцвягі.

І вось недзе тут, у момант гранічнай скрухі, я нечакана ўспомніў Йохана Хейзінга, дакладней,ягоную канцэпцыю, у якой ён сцвярджаў, што ўся чалавечая культура — гэта нішто іншае, як гульня ў безлічах праяваў гульні ("Homo ludens"). Калі "вся жизнь игра", — падумалася мне, — то чаму б нам, "свядомым", не **згуляць** у Беларускую Нацыянальную Дзяржаву? Чаму б нам не правесці сярод сваіх, "свядомых", выбары **свайго** Прэзідэнта, **свайго** Парламента, якія б потым сфармавалі **наш** Урад, прынялі канстытуцыю для **нас**, і згодна гэтай канстытуцыі знайшлі б нам месца сярод грамадзян Беларускай Нацыянальнай Рэспублікі (БНР); і г.д. і да т.п.

Зачапіўшыся хоць за нешта, мая фантазія ўжо не хацела зважаць ні на законы логікі, ні на магчымасці рэальнасці, яна ліхаманкава разбягалася ў розныя бакі ўсё далей і далей (куды там Манілаву): я ўяўляў **уласныя** прадстаўніцтвы ў розных краінах свету (дзе толькі беларусаў няма, а згуртаванні беларусаў у ЗША, Канадзе, Аўстраліі, Польшчы, Латвіі ды некаторых іншых краінах і сёння выконваюць ролю пасольстваў ці не ў большай меры за афіцыйныя пасольствы); **уласныя** грошы (дынар? талер?), якімі б мы карысталіся ў дробных гандлёвых стасунках паміж сабой (з цягам часу яны, магчыма, сталі б канверсавацца з беларускім рублём); **уласнае** "войска" (ну калі не "войска", дык нейкую арганізацыю кшталту самааховы, якая хаця б абараняла "свядомых" ад агрэсіі "несвядомых"); **уласныя** партыі (лібералы, сацыял-дэмакраты, камуністы, зялёныя...); **уласныя** рэлігійныя інстытуты (сярод іх аўтакефальная царква); **уласныя** СМІ, выдавецтвы, фонды, культурніцкія праграмы і ініцыятывы (што да ўсяго апошняга, то незалежныя беларускамоўныя выданні і культурніцкія праграмы, як на Беларусі, так і ў замежжы, заўсёды працавалі і працуюць пераважна на карысць і патрэбу грамадзян менавіта гэтай, віртуальнай Беларускай Нацыянальнай Рэспублікі)...

У тыя некалькі дзён вясёлага шаленства, калі мая галава была апанаваная віхурай уласных фантасмагорый, я, здаецца, перамацаў усе магчымыя дзяржаўныя, грамадскія, палітычныя і сацыяльныя інстытуцыі, прыглядаючыся, што з усяго гэтага мноства магло прыдацца да рэальнасці віртуальнай Беларускай Нацыянальнай Дзяржавы. Натуральна, усе тыя думкі (прыдумкі, задумкі, выдумкі) я тут прыгадваць не маю намеру, ды шмат чаго ўжо і забылася, але выразна памятаю, што і падчас найвялікага ачмурэння я не забываўся:

а) на Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, якая не прадугледжвае ўнутры сваіх межаў ніякай іншай дзяржавы, акрамя той, што ўжо існуе;

б) на адсутнасць механізму, праз які можна было б выявіць і злучыць усіх "свядомых" паміж сабой (калі яшчэ пабытовы камп'ютэр, падключаны да "сусветнага павуціння", станецца такой жа шараговай з'явай, як тэлевізар);

в) на адсутнасць адпаведных фінансавых сродкаў; а маштабныя гульні патрабуюць шмат грошай;

г) на анталагічную няздольнасць беларусаў гуляць у **сваю** гульню, ды і ўвогуле гуляць хоць у якія абстрактныя гульні.

Як гэта ні дзіўна, але менавіта апошняя антытэза найбольш выразна высветліла ўсю меру фантазійнасці маіх фантазіяў... Праблему Канстытуцыі вырашала Г у л ь н я; гуляць наша Канстытуцыя не забараняе, а калі можна гуляць у "Зарніцу" ці "КВЗ", то чаму нельга гуляць у віртуальную Дзяржаву?.. Адсутнасць камп'ютэраў пакуль можна было б кампенсаваць поштай, тэлефонам, незалежнымі СМІ... Грошы? Грошай заўсёды будзе не хапаць. А вось заахвоціць беларусаў, хай сабе і "свядомых", да інтэлектуальнай забаўкі, у якой гульня была б сур'ёзнай справай, а сур'ёзная справа — гульнёй, немагчыма. І гэта напэўна, што я беларусаў не ведаю?

Беларус альбо працуе, альбо п'е гарэлку. Калі вып'е, можа і пазабаўляцца. Але каб цвярозы беларус не працаваў, а забаўляўся — такога, лічы, не бывае.

На гэтай цвярозай выснове і скончылася мая сам-насам гульня ў віртуальную Беларусь. Але паколькі я трохі літаратар, гэта значыць чалавек, для якога выдуманае мае аднолькавую каштоўнасць з рэальным, то мне тады вельмі карцела падзяліцца гэтай выдумкай з іншымі — напісаць артыкул ці эсэ. Ды за рознымі сур'ёзнымі справамі рукі да фантазіяў не дайшлі...

## ЭТЫЧНЫ ІМПЕРАТЫЎ НА СКРАЗНЯКАХ ПРАГМАТЫКІ

Нельга сказаць, што потым я на тыя свае летуценні зусім забыўся. Зрэдчас згадваў, але ўсё неяк мімаходзь, паміж іншым, і пэўна, з цягам часу, яны неўпрыкмет пабляклі б да нявідалі. Але нядаўна пайшла пагалоска, што сярод "свядомых" узнікла ініцыятыва, якая заклікае прымаць грамадзянства Беларускай Народнай Рэспублікі. (Спадзяюся, чытачу "ЛіМа" няма патрэбы тлумачыць пра васьмідзесяцігадовую гісторыю БНР і ўсё, што з ёю звязана). Пагалоска змянілася публікацыямі ў прэсе, а неўзабаве я і сам меў гонар быць запрошаным на ўрачыстую прэзентацыю гэтай ініцыятывы, здзяйсняць якую мусіць "Нацыянальны цэнтр" на чале з прафесарам Анатолем Грыцкевічам.

Дык вось, як толькі я пачуў пра "грамадзянства БНР", то мне адразу ўзгадаліся мае ранейшыя летуценні пра Беларускую Нацыянальную Рэспубліку, і зусім не з абрэвіятурнай тоеснасці (БНР — БНР), а з прычыны куды больш істотнай: тут ужо дэкларавалася імкненне практычна рэалізаваць як мінімум адзін, але надзвычай важны пункт, які супадаў з "праграмай" маіх трызненняў, а менавіта — прапаноўвалася адметнае грамадзянства для "свядомых", гэта значыць з большага акрэслівалася поле іх **с у п о л ь н а й** прысутнасці ў тапаграфіі быцця.

Калі ёсць "мінімум", — спехам падумалася мне, — то, магчыма, прадугледжваецца і нейкі "максімум". Не, нават "спехам" я не спадзяваўся, што сур'ёзныя людзі, паважныя палітыкі стануць разгортваць сваю ініцыятыву, прыпадабняючыся да фантазіяў адвязанага ад рэальнасці літаратара. Але ж, але ж...

Натуральна, ніякіх "але" з "мінімуму" не вынікала. Ужо ў артыкуле паважаных Вінцука Вячоркі і Лявона Баршчэўскага, надрукаванага ў "Нашай Ніве" і прысвечанага ідэі "грамадзянства БНР", акцэнтавалася: гэта не гульня, гэта сур'ёзна (быццам мяне асабіста папярэджвалі). Потым, на прэзентацыі ініцыятывы, мае кволыя спадзяванні на "нешта большае" зусім зніякавелі. Розныя выступоўцы казалі адно і тое ж: "грамадзянства БНР" — гэта маральны і палітычны выбар, прысяга на вернасць незалежнасці, беларускай мове, бел-чырвона-беламу сцягу і гербу "Пагоня", дзяржаўнасці Беларусі. Таму, пэўна, мяне наўрад ці хто зразумеў, калі я ў сваім слове сказаў, што ідэя грамадзянства БНР мае самадастатковы патэнцыял, які пры ўмове яго разгорнутасці можа стварыць больш утульную сітуацыю для "нацыянальна свядомых". А інакш, калі гэтая ініцыятыва будзе толькі дапаможнай акцыяй у палітычнай барацьбе за ўладу "нашых" у Рэспубліцы Беларусь, то яна згорнецца ў звычайны сацыялагічны пераліс, чарговую каталагізацыю "свядомых" беларусаў для архіва найноўшай гісторыі і архіва КДБ.

Яшчэ раз паўтаруся, здаецца, я дастаткова ясна ўсведамляю розніцу паміж эмацыянальнымі фантазіямі сам-насам і магчымасцямі палітычнай рэальнасці. Але разам з тым я амаль упэўнены, што калі ідэя "грамадзянства БНР" не будзе падмацавана і нагружана дадатнымі ідэямі і праектамі, якія дапамогуць вывесці "падвойных" грамадзян з сітуацыі статыкі (фармальнага пераліку ў спісах) у сітуацыю дынамічнай грамадзянскай прысутнасці ў полі, акрэсленым ідэяй БНР, то БНР па-ранейшаму застанецца маральна-палітычным прывідам, а яе грамадзяне — зданямі, пра якія ніколі з упэўненасцю нельга сказаць: ці то яны ёсць, ці то іх няма.

У мяне маецца досыць падстаў думаць, што менавіта гэтак яно і будзе. Бо відавочна, што нашы палітыкі, актуалізаваўшы ідэю БНР, мяркуюць дапаможна абаперціся на яе, каб прыйсці да ўлады ў рэальнай Рэспубліцы Беларусь, а гэта значыць, што стратэгія іх ініцыятываў, у якія б абрэвіятуры яны ні загортваліся, вектарна будзе скіравана не на БНР, а на РБ, і таму наш маральны выбар "грамадзянства БНР" — гэта ўсяго толькі выяўленне этычнага імператыва нацыянальна заангажаванага грамадзяніна Рэспублікі Беларусь.

Само па сабе выяўленне этычнага імператыва бачыцца мне падзеяй безумоўна станоўчай, а ініцыятыва "Нацыянальнага цэнтра" падаецца мне адной з найбольш каштоўных грамадскіх ініцыятыў. Але з яе вынікае і небяспечнае пытанне: ці магчыма прыйсці да ўлады з ідэяй нацыянальнай дзяржавы там, дзе татальная большасць насельніцтва перманентна дэманструе сваю аддансць сацыяльнай мадэлі дзяржаўнага ўладкавання? Зусім жа не выключана, што менавіта ініцыятыва па далучэнні да грамадзянства БНР гранічна высветліць усю праблематычнасць падобнай магчымасці і ўрэшце абернецца новым "майскім рэферэндумам", толькі ўжо зьніцыяваным намі самімі. Бо колькі б высілкаў ні было пакладзена на прылучэнне грамадзян РБ да грамадзянства БНР, нават пры самым аптымістычным раскладзе можна не сумнявацца ў сціпласці лічбаў на выніковым рахунку.

Мы ўвесь час спадзяёмся на нейкі цуд, спадзяёмся, што тая рэальнасць, якую назіраем штохвілі на свае вочы, гэта аблуда і дастаткова вынайсці нейкі іншы ракурс бачання гэтай рэальнасці, як яна карэнным чынам пераменіцца на нашу карысць... І ці не ёсць ідэя "грамадзянства БНР" (у прапанаванай нам схеме) чарговай спробай змяніць ракурс бачання той самай сітуацыі ў спадзеве, што гэтым разам яна высветліць тое, што нам летуценна марыцца бачыць: з намі сотні тысяч, мільён! а раптам і не адзін...

Асабіста я ад вынікаў гэтай ініцыятывы чакаю іншага "цуда": можа, урэшце з яе сфармуецца разуменне, што нас ёсць столькі, колькі нас ёсць. І з гэтага разумення нашы палітычныя і грамадскія ініцыятывы далей будуць скіраваныя не на нейкі міфічны беларускі народ, у спадзеве раскатурхаць яго да нацыянальнага жыцця, а на нас саміх, якія ёсць сёння, колькі б там нас ні было, з нашым разуменнем цывілізаванага палітычнага і грамадскага ўладкавання. Гэта значыць, што мы, "нацыянальна заангажаваныя", перастанем, магчыма, быць адно нейкай механічнай сілай для татальнай экспансіі нацыянальнай ідэі на прастору ўсёй Беларусі і вызначым сябе ў якасці самадастатковага суб'екта ўнутры гэтай прасторы, зразумеем сябе як актуальную праблему, якую мы самі для сябе мусім і здольныя вырашыць... Вырашыць менавіта праз сябе, а не праз прылучэнне да нас (да нацыянальнай ідэі) астатняга насельніцтва Беларусі.

Прынамсі, наперадзе гэтая праблема мусіць выступіць як наша ўласная праблема, і ўжо толькі пабочна — як экспансія нацыянальнай ідэі вонкі...

## ЖЫЦЦЁ І СМЕРЦЬ У ДЫСКЕЦЕ З АЙЧЫНАЙ

Усялякая дзяржава ёсць нішто іншае, як суплёт правоў і абавязкаў дзяржавы перад яе грамадзянамі — і наадварот. Адсутнасць узаемных правоў і абавязкаў ці немагчымасць іх рэальна атрымліваць і выконваць з аднаго альбо другога боку, ператварае дзяржаву ў фікцыю, пакідае за ёй толькі ідэю дзяржавы, а за яе грамадзянамі пакідае адно права маральнага выбару: наследаваць гэтай ідэі ці адсланіцца ад яе. Вось чаму ў сітуацыі з БНР (у сітуацыі адсутнасці ўзаемных правоў і абавязкаў) наперадзе ўсяго апынуўся "маральны выбар".

Маральны выбар — рэч, безумоўна, сур'ёзная, але, паколькі ён ужо зроблены, то лагічна паўстае пытанне, а што з гэтым маральным выбарам рабіць далей, калі з дзяржавы, як кажуць, ні даць ні ўзяць?..

Пэўна, каб унікнуць гэтага пытання, я ў пару трызненняў над віртуальнай Беларуссю, бадай нават інтуітыўна (бо тады, здаецца, не думаў над гэтым) зачапіўся за "гульню", паколькі гульня аўтаматычна здымала праблему правоў і абавязкаў.

Так, гульня не надзяляе цябе ніякімі правамі, але яна і не патрабуе ад цябе ніякіх абавязкаў, акрамя абавязку прытрымлівацца правілаў гульні. Яна нічога табе не абяцае, акрамя магчымасці гуляць у тую гульню, якая табе падабаецца, у якую табе жадаецца гуляць, бо праз яе ты можаш кампенсаваць тое, чаго пазбаўлены ў рэальным жыцці.

Я выдумляў Беларускую Нацыянальную Рэспубліку як гульню для тых, хто яе (у значэнні нацыянальнай ідэі) ужо даўно выб-

раў як тоесную ягонай экзістэнцыі форму духоўнага і інтэлектуальнага існавання, але не мог рэалізаваць гэты выбар ва ўмовах іншароднага соцыуму. Якраз з гэтага гульня ў БНР уяўляецца мне адным з (хай сабе і фантастычных у сэнсе рэалізацыі) спосабаў хоць частковай гуманізацыі той пачварнай дысгармоніі, якая заўсёды ўзнікае, калі твая фізічная прысутнасць у сацыяльна-дзяржаўным дыскурсе цалкам розніцца з інтэлектуальнымі і эмацыянальнымі запатрабаваннямі твайго "я".

Змушаны жыць у антаганістычным мне соцыуме, я вымройваў нейкую эфірную айкумену, якая б выступіла ў ролі майго пратаганіста, аб'яднала мяне з падобнымі ў нейкім маштабным, увесь час інтрыгуючым праекце, які мог бы стацца хоць якой альтэрнатывай маёй прысутнасці сярод рэаліяў чужынната мне сацыяльнага ўтварэння...

Дарэчы, пра "маштабнасць праекта". У тых маіх ліхаманкавых трызненнях гульня ў віртуальную Беларусь ахоплівала кожнага, хто пажадаў бы ў ёй удзельнічаць, незалежна ад таго, куды яго закінуў лёс — у Рэспубліку Беларусь, Аўстралію ці на Камчатку. Дзяржава без хоць якога лапіка сваёй зямлі магла б дазволіць сабе быць бязмежнай.

Нацыянальная Дзяржава, якая заўсёды з табой, незалежна ад геаграфічных каардынатаў і формаў таго соцыуму, у якія ты патрапіў, — магчыма, гэта было б выйсцем для таго, хто бачыць у страце нацыянальнай ідэнтычнасці страту самога сябе... Магчыма, каб гэта было хоць як магчыма... Хоць як?..

Пазбаўленыя сваёй дзяржавы, гнаныя са сваёй зямлі і раскіданыя па ўсім свеце габрэі змаглі застацца самімі сабой і праз дзве тысячы гадоў вярнуцца на сваю "гістарычную радзіму" таму, што ўсе дзве тысячы год гулялі ў **сваю** гульню па правілах, выкладзеных у Бібліі (хай даруюць мне вернікі гэтае і наступнае рызыкоўныя параўнанні), і пад наглядам суддзі, які ў габрэяў называўся Бог.

Але, як вядома, беларусы — не габрэі. Беларусы залішне сур'ёзна ставяцца да жыцця, каб гуляць у жыццё. І гэта, пэўна, таксама няблага. Толькі, як сведчыць гістарычны вопыт, калі ты не ўмееш сам забаўляцца, то табой забаўляюцца іншыя.

# Местачковая газета

**„Газета Слонімская" — пад такім загалоўкам выходзіла ў Слоніме ў 1938 г. газета, якою кіраваў Сяргей Новік-Пяюн, а рэдагавала выданне жонка паэта, Галіна. Газеты ў той час, да прыходу бальшавікоў, паказалася дзесяць нумароў. Выпуск „Газеты Слонімскай" узнавіўся 24 красавіка 1997 г. пад кіраўніцтвам Віктара ВАЛАДАШЧУКА, з якім мы гутарым пра пытанні выпуску незалежнай газеты на правінцыі.**

***— Якія былі пачаткі ўзнаўлення вашай газеты?***

— Першы нумар выйшаў тыражом у 3000 паасобнікаў у друкарні ў Слоніме. Зразу пасля яго выхаду нам забаранілі яе там друкаваць — без ніякіх тлумачэнняў. Мы былі вымушаны перанесці друк у суседнюю Брэсцкую вобласць у горад Баранавічы. Першыя нумары рабіліся на камп'ютэрнай тэхніцы газеты „Навіны" ў Мінску, потым у мяне на кватэры ў Слоніме, а нарэшце прыдбалі мы асобнае памяшканне, сваю тэхніку і, па працягу года, стварыўся рэдакцыйны калектыў. Наш тыраж за год часу дацягнуў да 7000 экземпляраў. Сталася аднак так, што мясцовыя ўлады ў асобе мэра горада забаранілі распаўсюджваць газету ў крамах — гэта ўдарыла нас на якіхсьці 2000 экземпляраў. Мы вымушаны былі стварыць сетку распаўсюджвання праз прыватныя асобы. Цяпер у нас разыходзіцца 6000 тысяч паасобнікаў „Газеты Слонімскай". Распаўсюджваецца яна ў горадзе Слоніме і раёне — жыве ў гэтых адміністрацыйных адзінках каля 80 тыс. людзей.

***— Які абсяг тэмаў у газеце?***

— Ён вельмі шырокі. Мы газета інфармацыйная, гістарычная, літаратурная, палітычная, рэкламная. Стараемся рабіць местачковую газету, якая была б цікавай для ўсіх жыхароў — ад інтэлігента да рабочага. У нас шмат тэматычных старонак: дзіцячая, літаратурная, ваенная, маладзёжная, старонка аўтааматараў.

***— Як вы ацэньваеце запатрабаванне на сваю газету ў мястэчку, якое не з'яўляецца нават абласным цэнтрам?***

— Яно вялікае, бо калі правесці падлік, дык акажацца, што на нашу газету падпісваецца, прыкладна, кожная пятая сям'я. У той жа час газета „Навіны" трапляе ў Слонім у колькасці 30 экземпляраў. Няма тут сумнення, хто больш уздзейнічае на грамадскую думку.

***— Як выглядаюць суадносіны вашай газеты з адпаведнай ёй мясцовай афіцыйнай газетай?***

— Канкурэнцыя вельмі вострая. Да з'яўлення „Газеты Слонімскай" афіцыйная раённая газета выходзіла тыражом недзе ў 6000 паасобнікаў. Калі з'явіліся мы, прайшоў месяц, наступны, мэр горада выклікаў рэдактара раёнкі і заявіў яму: „Калі ваш тыраж будзе меншы ад гэтай прыватнай газеты, то я яго здыму". Яны вымушаны штучна павышаць тыраж. Адбываецца гэта так, што калі мы набліжаемся сваім тыражом да афіцыйнай газеты, мэр звоніць у калгас і, прыкладна, кажа: „Слухай, Мар'янавіч, падпішы сваіх калгаснікаў на газету".

***— Як ваша газета выжывае?***

— Пачаткова я атрымаў пазыку ад мясцовага прадпрымальніка, які выдзяліў на газету пэўную суму грошай. За яе выйшлі першыя нумары і была закуплена рэдакцыйная тэхніка. Прадпрымальнік гэты дапамагае нам і надалей. Цяпер грошы зарабляем таксама самастойна. Да нас паступае 15-20 млн. беларускіх рублёў у месяць ад рэкламы. Рэкламай стараемся пагасіць выдаткі на паперу і арэнду памяшкання. Наша газета рэнтабельная, але рэнтабельнасць вельмі малая. Каб павысіць зарплаты супрацоўнікам, нам трэба звяртацца за грантамі. І гранты такія мы атрымліваем.

***— Якія паводле вас галоўныя праблемы ў ажыццяўленні незалежнай газеты?***

— Рэч у тым, што перашкоды адны і тыя ж. Мэр горада сказаў майму знаёмаму: „Калі б Валадашчук прыйшоў да мяне, пакланіўся, сказаў так і так, дык я яму ў нечым і дапамог бы". А мой погляд такі, што мэравая дапамога мне непатрэбна — хай толькі не перашкаджае. Друк газеты ў суседняй вобласці — гэта лішнія выдаткі. Адміністрацыйнае абмежаванне распаўсюджвання — зноў лішнія выдаткі, бо трэба шукаць іншыя шляхі. Не прайшло і года, калі пачалі мы выпуск газеты, а ў нас было 5-6 падатковых праверак. Паводле нашых інфармацый, начальніца падатковай інспекцыі атрымала заказ любым шляхам нешта на нас знайсці і задушыць. Начальніца гэтая мае пад сабой 60 супрацоўнікаў, а праверку рабіць у друкарні ў Баранавічах двойчы ездзіла сама. Гэта пра нешта сведчыць. Нічога, дарэчы, на нас там не знайшла.

Газета, якая выходзіць у мястэчку, дзе кожны кожнага ведае, не павінна біць чалавека і знішчажаць яго, бо ўсе гэтыя людзі — нашы чытачы. Мы ўжо гэта спрактыкавалі. Кола нашых чытачоў — ад камуністаў да самых радыкальных радыкалаў. Ну і праз год дацягнулі тыраж да сямі тысяч. Гэта ж нядрэнна?

***— Гэта вельмі-вельмі прыстойны вынік. Дзякую за размову.***

**Гутарыў**
**Аляксандр Максімюк**

**Ніва**

## СЬВЯТКАВАНЬНІ Ў ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ

Згуртаваньне Беларусаў у Вялікай Брытаніі ўрачыста адсьвяткавала 80-я ўгодкі абвешчаньня Беларускай Народнай Рэспублікі і адначасна 50-ую гадавіну заснаваньня Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі. Сьвяткаваньне было арганізавана Ўправай ЗБВБ і складалася з дзьвух частак — Прыняцьця і Ўрачыстай Акадэміі.

Прыняцьце адбылося 25-га сакавіка ў Royal Lancaster Hotel, London. Урачыстасьць пачалася а 15-ай гадзіне прыняцьцем суродзічаў з Канады, Францыі, Беларусі і таксама шматлікіх прадстаўнікоў розных установаў ды інтэрнацыянальных арганізацыяў Англіі. У залі ўпрыгожанай кветкамі і сьцягамі — брытыйскім і бел-чырвона-белым беларускім — старшыня ЗБВБ спд. Міхалюк у кароткай прамове прывітала прысутных. Яна паведаміла аб нагодзе Ўрачыстасьці і перадала слова прыбыўшай на сьвяткаваньне з Канады старшыні Рады БНР Спадарыні Івонцы Сурвілле. Спд. Сурвілла расказала аб гісторыі БНР, яе сучаснай дзейнасьці і значнасьці. Потым прамаўлялі дэлегаты з Беларусі. Урачыстасьць працягвалася ў прыемнай атмасфэры пры кілішку віна.

Урачыстая Акадэмія адбылася ў залі пры Бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў суботу 28-га сакавіка. Перад акадэміяй у капліцы Сьв. Пятра і Паўла, а. А. Надсон адслужыў малебень за беларускі народ. Сярод іншага ў сваёй пропаведзі ён адзначыў: «Бог нас, Беларусаў, выбраў як нацыю і Ён нас у бядзе не пакіне».

Акадэмія пачалася а гадзіне 15-ай. Заля была перапоўнена як сябрамі ЗБВБ так і гасьцямі, пераважна маладымі і сярэдняга веку людзьмі. Урачыстасьць адкрыла Спд. Л. Міхалюк. Яна павіншавала прысутных са Сьвятамі і падзякавала за прыбыцьцё. Спадарыня старшыня асобна прывітала вялікую групу гасьцей з Беларусі, якія нягледзячы на цяжкасьці прыехалі ў Лёндан, каб далучыцца да дыяспары ў дзень сьвяткаваньня гістарычных угодкаў.

Потым, сакратар ЗБВБ Др. І. Гурло прачытала шматлікія віншаваньні атрыманыя ад розных беларускіх арганізацыяў і ўстановаў, як на Беларусі, так і ў краінах вольнага сьвету.

Вельмі зьмястоўны даклад пра БНР прачытаў беларускі студэнт Оксфордскага ўнівэрсытэту Паўла Шаўцоў. Прысутныя падзякавалі яму апладысмэнтамі за цікавы даклад і ягоную прыгожую беларускую мову.

Айцец А. Надсон узяў слова і расказаў аб гісторыі Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі. ЗБВБ была заснаваная беларускай моладзьдзю, якую лёс у час Другой сусьветнай вайны закінуў за межы Бацькаўшчыны. Моладзь пачала арганізавацца, каб зрабіць імя беларуса вядомым у краінах Захаду. Айцец Надсон успомніў першага старшыню ЗБВБ, адданага патрыёта праф. Жук-Грышкевіча. Прагучалі шматлікія імёны іншых беларусаў, якія праз гады працавалі ў ЗБВБ на карысьць беларускай справы. Доўгі час, нягледзячы на скамплікаваны стан здароўя, на пасадзе старшыні плённа працаваў сьв. пам. Спадар Янка Міхалюк. Цяпер гэтую працу пасьпяхова прадаўжае яго жонка — Лёля.

Пасьля выступалі госьці з Беларусі. Яны падзяліліся ня толькі сумнымі весткамі з Бацькаўшчыны, але і прыемным ураженьнем ад пабыту ў вольным сьвеце.

Акадэмія закончылася адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну: "Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Сяброўкі ЗБВБ зладзілі добры пачастунак, дзе пры чарцы віна прысутныя мелі магчымасьць прыемна паразмаўляць ды наладзіць новыя знаёмствы.

*С. Будкевіч*

## А што, як ужо ня стане беларускай мовы?

**Разважма гэткую сітуацыю, калі б беларускі народ — за сачавічную полаўку — запісаў у сваёй канстытуцыі, што адзінай яго мовай ёсць расійская (руская), а кожнага, хто гутарыць інакш, трэба высылаць у канцлагер...**

Перш за ўсё напомнім, што — акрамя царскіх імперыялістаў ды малапісьменных — увесь навуковы свет лічыць беларускую мову менавіта мовай, а не заходнім дыялектам рускай мовы. Ужо Адам Міцкевіч пісаў, што яна найбольш гарманічная і найменш сапсаваная сярод усіх славянскіх моў. Руская, украінская ды балгарская і сербская мовы маюць багата турэцкіх слоў, а славенская і заходнеславянскія — нямецкіх.

Калі мова ўжо мёртвая, у такім выпадку, маючы слоўнік ды шмат тэкстаў, усё роўна яна неяк жыве, таму што займаюцца ёю вучоныя. Напрыклад, этруская мова мае мала тэкстаў, а на курдсы з'явілася ў Рым больш кандыдатаў чым было месцаў. А беларуская мова мае цяпер столькі друкаваных выданняў (кніг ды артыкулаў), што і за сто гадоў усяго не прачытаеш.

Стараяўрэйская мова (іўрыт) больш як дзве тысячы гадоў была мёртвай, а цяпер зноў жыве як нацыянальная мова Ізраіля. Так сама і карнвалійская мова (паўднёва-заходняя Англія), якая належыць да ліку брытанскай групы кельцкіх моў, памёрла ў XVIII стагоддзі, а цяпер увайшла ў праграму тамашніх школ.

Ці трэба быць вялікім народам, каб мець права на сваю мову? Рэспубліка Науру на Ціхім акіяне мае дзесяць тысяч жыхароў ды сваю наурскую дзяржаўную мову. Ісландыя налічвае 250 тысяч жыхароў (менш як Беласток) і мае сваю ісландскую дзяржаўную мову. Мальта мае 350 тысяч жыхароў ды сваю дзяржаўную мову.

Пачаткова шатландскія бацькі — таксама як і падляшскія — гаварылі сваім дзецям: навошта табе свая гутарка, ты вучыся англійскай мове, тады больш заробіш. Цяпер аднак Шатландыя выпускае ўжо свае паштовыя маркі, рэферэндум вырашыў пра асобны парламент, а ў будучыні сваю абсалютна незалежную дзяржаву.

Бывае і так, як у Ірландыі, калі родную мову ведае толькі частка насельніцтва (пануе англійская), дык цяпер улада стараецца, каб усе ведалі ірландскую. Настала такія часы, што інтэлігент павінен ведаць многа моў (паліглотыя), але на захадзе Еўропы амаль ніхто не ведае рускай. Калі я быў ва універсітэце ў Базелі (Швейцарыя), то ў чытальнай зале не пабачыў я ніводнае кнігі на рускай мове. Аднак Нацыянальная бібліятэка ў Лондане стварыла аддзельны пакой для славянскіх выданняў — славікаў. „Глабальная вёска" прапаведвае ўсеагульную ўзаемасувязь. Цяпер часткі Бібліі перакладзены на больш чым 2 тысячы моў, а на свеце іх прыблізна 5000. У адной толькі афрыканскай Нігерыі іх каля 250. Значыць, XXI стагоддзе будзе эрай мовазнаўства. Пакуль што да чаго, трэба так пісаць і друкаваць, каб змест тэкстаў быў настолькі надзвычайны ды нескаразнікаючы, каб выразкі з беларускіх газет — як цэнны дар — пераходзілі з пакалення ў пакаленне. Тады і японцы будуць студэнтамі замежнай беларускай мовы, таму што чэшскую ўжо вывучаюць.

**Сэрафін Корчак-Міхалеўскі**

# Жыровічы


Агульны выгляд Жыровіцкага манастыра.

Вёска Жыровічы знаходзіцца ў Слонімскім раёне на Гродзеншчыне. Са Слоніма да яе хвілінаў дваццаць ехаць аўтобусам. А прыехаўшы, адразу трапляеш не проста ў звычайную вёску, а ў адзін з прыгажэйшых і славуцейшых куткоў Беларусі з вядомым на ўсю Еўропу Свята-Успенскім манастыром.

Даўняя легенда сцвярджае, што каля 1470 года на звычайнай грушы пастушкі мясцовага памешчыка Аляксандра Солтана ўбачылі невялічкую іконку. Аднеслі яны абразок Солтану, а той яе ў скарбонку схаваў. Вечарам захацеў гасцям паказаць, адчыніў скарбонку — а там пуста. Назаўтра пастушкі зноў убачылі абразок Божай Маці на грушы. Пасля таго і пабудаваў Аляксандр Солтан на тым месцы драўляную царкву, куды і перанеслі ікону. Вакол царквы пачалі сяліцца людзі, быў неўзабаве заснаваны манастыр. Вёска Жыровічы была далекавата ад манастыра, але людзі ахвотней пачалі будавацца бліжэй да святога месца.


Абразок Маці Божай Жыровіцкай.

Дзесьці ў 1520 годзе ў Жыровічах здарыўся вялікі пажар, які знішчыў усе пабудовы і драўляны храм. Не згарэла толькі царкоўная школа. Падчас пажару знік і цудатворны абразок.

Прайшло колькі дзесяткаў гадоў. Аднойчы за вясковай ваколіцай на пагорку дзеці гулялі каля вялікага валуна. Раптам на яго насупленай лабаціне з'явілася Божая Маці ў нябесным ззянні. Пра незвычайнае здарэнне дзеці адразу ж паведамілі дарослым і святару. Камень, на якім з'явілася Багародзіца, абгарадзілі. А на месцы згарэлага храма пабудавалі новы і змясцілі ў ім абразок Божай Маці.

На пачатку XVI стагоддзя драўляны манастыр быў адбудаваны нанова. У 1655 годзе казацкія атрады Багдана Хмяльніцкага, якія дзейнічалі супольна з расійскай арміяй супраць Рэчы Паспалітай, захапілі Слонімшчыну, ушчэнт знішчылі Жыровіцкі манастыр і перабілі яго служыцеляў. Моцна пацярпела і само мястэчка. Праз некаторы час манастыр стаў уніяцкім і два стагоддзі разбудоўваўся. Пасля далучэння Беларусі да Расійскай імперыі Жыровіцкі манастыр зноў стаў праваслаўным.

Падчас першай сусветнай вайны абразок Жыровіцкай Божай Маці і ўся манастырская маёмасць былі вывезеныя ў маскоўскі сабор Васіля Блажэннага. Тым часам немцы пераабсталявалі манастыр пад казарму, пасеклі на дровы іканастас Нікольскай царквы... Святы абразок Божай Маці на патрабаванне вернікаў у 1920 годзе быў вернуты ў Жыровічы, астатняе начынне разам з архівам і бібліятэкай, якая налічвала 30 тысяч царкоўных і манастырскіх кніг, засталося на чужыне.

У другую сусветную вайну немцы размясцілі ў манастыры камендатуру, але на гэты раз да чужога набытку паставіліся паважлівей.

Жыровіцкі манастыр на сённяшні дзень з'яўляецца буйнейшым архітэктурным комплексам, які сфармаваўся ў 1672—1828 гадах на ўсходняй ускраіне вёскі на ўзвышаным левым беразе ракі Шчары. Манастыр уключае Успенскі сабор са званіцай, Богаяўленскую, Крыжаўзвіжанскую і Георгіеўскую цэрквы, будынак духоўнай семінарыі, жылы корпус, трапезную, бальніцу, гаспадарчыя пабудовы, сад, агарод, сажалкі. Тэрыторыя манастыра абнесена мураванай сцяной з моцнымі брамамі.

Найгалоўны будынак манастыра — Успенскі сабор — узведзены ў 1613 годзе. Спачатку ён быў пабудаваны ў стылі барока, а пасля рэканструкцыі набыў рысы класіцызму.

Ва Успенскім саборы захоўваецца самая каштоўная манастырская рэліквія — выразаны на камені абразок Маці Божай Жыровіцкай, з якім звязана паданне аб узнікненні манастыра.

Да сярэдзіны XIX стагоддзя ў манастырскіх кнігасховішчах захоўвалася Жыровіцкае евангелле — беларускі рукапісны помнік XV стагоддзя. Багата аздобленае застаўкамі, мініяцюрамі з выявамі евангелістаў, яно з'яўляецца выдатным помнікам кніжнай мініяцюры Беларусі. На 376—377-м аркушах на старажытнабеларускай мове зроблены ўласнаручны запіс канцлера Вялікага княства Літоўскага Льва Сапегі (адсюль другая назва рукапісу — Евангелле Сапегі). На жаль, і гэты нацыянальны скарб апынуўся за межамі нашай краіны — сёння Жыровіцкае евангелле зберагаецца ў Навуковай бібліятэцы Акадэміі навук Літвы.

Да ўсяго сказанага пра Жыровічы хочацца дадаць, што ў 1989 годзе тут была адчынена Мінская праваслаўная духоўная семінарыя. Але яе афіцыйнае зацвярджэнне адбылося яшчэ ў 1793 годзе ў сувязі са стварэннем на беларускіх землях новай Мінска-Ізяслава-Браслаўскай праваслаўнай епархіі. З 1793 да 1840 года семінарыя знаходзілася ў Слуцку, а пасля зноў перабралася ў Жыровічы.

Сёння семінарыя ў Жыровічах мае статус вышэйшай духоўнай навучальнай установы. Тут працуюць дзённае і завочнае аддзяленні. У кожнага семінарыста, які пакідае сцены Жыровіцкага манастыра, наперадзе здзяйсненне абранай мэты: служэнне Праваслаўнай царкве, служэнне Бацькаўшчыне.

Сяргей ЧЫГРЫН,
г. Слонім.

"Бярозка"

*Ларыса ГЕНІЮШ*

## Жыровічы

*Прыехаць у Жырова * лёс мне выпаў,*
*дождж хрысціць голаў грэшную маю.*
*І я пад голлем шматвяковай ліпы*
*пільгрымам сціплым сцішана стаю.*

*Святыні побач белыя, як дзіва,*
*ў абдымках хмараў і высокіх дрэў.*
*Ідзе святар, бы галубочак сівы,*
*стаміўшыся, на лаўку хтось прысеў.*

*Сюды травой, аброшанай і мяккай,*
*на цудатворны пераможны кліч*
*йдуць людзі з горам, болем і падзякай.*
*Людскія душы ачышчае зніч.*

*Перада мной зямля наша святая.*
*Тут у паклоне дрэвы над вадой,*
*дзе галубы бясшумна пралятаюць,*
*ступала Маці Божая па ёй.*

*Не знатныя, а пастушкі віталі.*
*Прыйшла да нас ў вясняны дзень знарок,*
*і краю міламу, каб лепшымі мы сталі,*
*пакінула на дрэве абразок.*

*Над намі храм, туманныя нябёсы.*
*Крынічанька пад храмам б'е з зямлі.*
*Як пастушок ў кашульцы белай босы,*
*стаю, і слёзы твар мой залілі.*

*Адданасцю стукочуць нашы сэрцы*
*з крыніц благаслаўленных праўду піць.*
*Мінуласці святой з зямлі не сцерці*
*і веры ў Бога ў сэрцы не спыніць.*

*Жыровічы, славутая мясціна,*
*здаўна пракладзены для нас дзядамі шлях.*
*Малітвы боль ў нялёгкую хвіліну*
*мы на тваіх складаем алтарах.*

*Хай будзе мір, ды згода будзе ўсюды.*
*Ды калі грозьбай азарыцца сінь,*
*нашай зямлі, дастойнай Тваіх цудаў,*
*ў сваёй апецы, Божа, не пакінь!*

* Жырова, Жырава — мясцовыя назвы Жыровічаў.

## З МЕНСКУ ДА НАС — НА ЛЯЧЭНЬНЕ

24-га красавіка г. г. у Грэнд Рэпідс, Міш. прыляцела Натальля Даражэй з Менску, Беларусь. Ёй шэсьць годзікаў. Прыляцела яна да нас на вельмі складаную апэрацыю сэрца, якую ў Усходняй Эўропе правесьці немагчыма. Перад ёю падобную апэрацыю прайшлі ў нас ужо чацьвёра дзетак з Беларусі. Яна пятая. Рыхтуюцца неабходныя паперы для яшчэ аднаго хлопчыка з Беларусі.

Падобныя апэрацыі вельмі складаныя і вымагаюць вялікіх коштаў... але ўсё можна зрабіць калі ёсьць жаданьне і пачуцьцё дабрачыннасьці. Харытатыўная арганізацыя "Healing the Children, Michigan-Ohio Chapter" і група лекараў на чале з ведамым хірургам Др. Р. Нэйроты робяць дастойную і сьвятую справу, даслоўна выратоўваючы дзесяткі дзяцей штогод з розных краінаў сьвету. Яны сапраўды заслугоўваюць на вялікую пашану і падзяку.


На здымку: Стуардэса, якая прывезла Наташу Даражэй з Менску і Рэд. «Беларускага Дайджэсту» Мікола Пруські.

ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

Моцна просім Вас не забывацца перасылаць ахвяру на выдавецкі фонд нашае газэты. Наша супольная газэта выдаецца толькі дзякуючы ахвярнасьці людзей добрае волі. Калі ласка, памятайце пра нас... Дзякуем!

# Наступленне асоту...

## НАТАТКІ ПІСЬМЕННІКА



Мар'ян ДУКСА

**МОЙ ВІЗІТ** на бацькаву зямлю быў выпадковым. Са знаёмым настаўнікам я мінулым летам пабываў на возеры свайго маленства — Вішнеўскім возеры, што атрымала назоў ад мястэчка, якое ўтульна месціцца на яго ўзбярэжжы. У незвычайна цёплай і чыстай вадзе мы плавалі цэлы божы дзень, поўныя радасці і ўцехі, а яны сёння ў душы рэдкія госці. Хоць і быў я прыемна стомленым, але ніяк не мог заснуць у палатцы. Штосьці трывожыла і вярэдзіла, пакуль урэшце не зразумеў: бацькава зямля... Яна, наша былая хутарская зямля, ляжала за паўтара кіламетра адгэтуль, дзе я спрабаваў забыцца ў сне, і нейкая магічная сіла моцна цягнула мяне на месца разбуранага гнязда. Раніцой я ўжо стаяў на ёй, і першае, да чаго дакрануўся, была нейкім цудам уцалелая сасна. 28 гектараў зямлі, якую бацька набыў у 30-я гады, уключалі ў сябе, акрамя ладнага кавалка мурагу, бярэзнік і сасняк з густым чарнічнікам. Прыхінуўшыся плячом да смалістага дрэва, адчуваючы яго слабое дыханне, я нібы акунуўся ў прорву мінулага часу, сатканага з надзей, драм і трагедый. На гэтым цьмяным палатне часу ўнутраным зрокам угледзеў і лёс радні — балючы малюнак, вышыты бяздушнай, халоднай рукой гісторыі. У гэты міг я надзвычай выразна адчуў сябе яе бязвіннай ахвярай, маленькай мурашкай, што трапіла пад яе колы. Але, з другога боку, думалася, крыўдаваць на гісторыю — марны занятак, зло твораць канкрэтныя асобы, зло адбываецца паводле нашага актыўнага ці маўклівага благаславення. Гісторыя — гэта ўсяго жывая платформа, якая рухаецца ў часе і на якую мы сыплем свае добрыя ці злыя ўчынкі. Мы самі па сваёй слепаце, маладушнасці дазваляем кіраваць сабой, краінай людзям жорсткім, з садысцкімі схільнасцямі. Не толькі раней, але і цяпер нас вельмі мала цікавіць маральны воблік нашых пастухоў. Прайсці праз маральнае сіта — гэта ў нас чамусьці не самая галоўная ўмова для тых, хто імкнецца да ўлады. Давайце прызнаемся шчыра, што мы даволі паблажліва адносімся да тых, у каго размытыя паняцці дабра і зла і хто хоча кіраваць намі, — яны нам у нечым родасныя, блізкія... Галоўнае, каб былі "вопытныя", "кампетэнтныя", — так нам унушылі, а мы па сваёй плябейскай даверлівасці зусім не спрабуем паварушыць мазгамі, каб зразумець, што гэтага катастрафічна мала для нашых рулявых.

Фундамент вакханаліі зла і гвалту заключаецца ў нашым штодзённым побыце, пранізаным духам зайздрасці і недружалюбнасці, мы сваімі рукамі выпешчваем монстра насілля.

Мой бацька 10 гадоў батрачыў у Амерыцы, сабраў на той час ладную суму — тры тысячы долараў і, вярнуўшыся ў 30-я гады дахаты, выкупіў кавалак зямлі ў пана, у якога быў добры палітычны нюх, і той не мог не адчуць непазбежнай для Заходняй Беларусі бальшавіцкай экспансіі. Многія сяляне, затурканыя беднасцю, упарта і адчайна ехалі ў белы свет, каб сваім сумленным мазалём раздабыць якую-небудзь капейку і набыць валоку запаветнай зямлі. Ніхто і ў кашмарным сне не мог уявіць, колькі няшчасця яна прынясе.

Верасень 1939 года прадоўжыў эстафету гвалту, распачатую яшчэ ў перыяд сталінскай калектывізацыі. Як толькі не пачарнелі чырвоныя сцягі, дружна развешаныя па вёсках Заходняй Беларусі, ад таго бяскрайняга гора, якое абрынулася на больш-менш заможных сялян, калі меціць на ўвазе наяўнасць большых, чым у сярэднім па вёсцы, зямельных плошчаў, бо заможнасць тая ў цэлым мела вельмі ўмоўны характар. Гасцінец на Свір (цяперашні гарадскі пасёлак, што быў раней раённым цэнтрам) у 39—40-ых гадах штодзённа звінеў і скрыпеў ад сялянскіх калёс і саней, дзе сядзелі са сваім мізэрным скарбам змарнелыя, утраплёныя розных узростаў мужчыны, жанчыны і іх дзеці, асуджаныя на выгнанне. Гэта былі сем'і настаўнікаў, землямераў, чыгуначнікаў, леснікоў, але найбольш сярод іх было сялянскага люду. Колькі іх даехала да прызначанага месца пасля адпраўкі са Свіра, колькі трапіла ў Курапаты, колькі адубянела ад марозу ў "цялятніках", кончылася ад хвароб — адзін Бог ведае. Стаяў няспынны плач у гэтай бясконцай пахавальнай працэсіі, што рухалася ў напрамку зборнага пункту. Сёння на гэтай маўклівай дарозе, асабліва наўзбоч яе праезджай часткі, вельмі ўжо густа і пышна расце крываўнік — ці не людскія колішнія слёзы спрыяюць яго росту? Можа, гэта трава забыцця, якая маладой зелянінай абкладае нашу памяць?

Гвалт над заможнымі сялянамі Заходняй Беларусі меў сваю палітычную адметнасць. Аб класавай барацьбе на вёсцы гаварылася не так шмат, як было ў 30-я гады. Палітыка ў дачыненні да так званых "кулакоў" была больш подлай, хітрай. Селяніна душылі падаткамі. На бацькаву зямлю быў накладзены па тагачасным мерках вельмі вялікі падатак, здаецца, 2 тысячы рублёў — роўна столькі, колькі каштавала наша новая хата, якую давялося адразу ж прадаць, каб пазбегнуць высылкі. Але праз тыдзень атрымалі паперу з такім жа падаткам зноў! Па прынцыпе: знайшлі патрэбную суму спачатку, знойдзеце і яшчэ раз, кулацкія морды! Прыводжу гэтыя незстэтычныясловы, бо бальшавіцкія лінгвісты ў той час гэты выраз выкарыстоўвалі абавязкова. Бацькава наіўнасць, што, гуляючы з уладамі чэсна, можна выйграць, закончылася судом з яго рашэннем выслаць нас у Сібір за "свядомы" зрыў хлебанарыхтовак, адным словам, за шкодніцтва. Не ведаю, што б з намі было і ці мог бы я нарадзіцца і пісаць сёння гэтыя нататкі, калі б не завея, якая разгулялася ў дзень нашага ад'езду. Мы проста ўзялі і не з'явіліся на зборны пункт, тым самым і выратаваліся, бо пакуль органы тасавалі спісы будучых вязняў, думаючы, да якой чарговай групы нас далучыць, — пачалася вайна. Вайна, такім чынам, дала нам шанц застацца на сваім месцы і выжыць, хоць здароўе маіх бацькоў было канчаткова падарвана.

Рэакцыя аднавяскоўцаў на нашы беды была неадназначнай, але ў сваёй большасці нашы суседзі па зямлі радаваліся, што распачаўся над намі гвалт. Я гэта кажу таму, каб не заставалася ніякіх ілюзій адносна высокай маральнасці, хрысціянскай міласэрнасці, дабрыні ўсяго беларускага вясковага люду. Тып вяскоўца нашымі паэтамі і празаікамі вельмі ўжо заідэалізаваны. Паводле пісьменніцкіх канцэпцый, калі і трымаюцца яшчэ мараль і духоўнасць, дык толькі на вёсцы. Мне здаецца, рэаліі іншыя, прынамсі, не такія ружовыя.

Маці не раз успаміналa, як адразу ж пасля раскулачвання вяскоўцы дружна падаліся ў наш бярэзнік з піламі і сякерамі. Прыгажуні-бярозы былі знішчаны за пару дзён. Везучы іх на вазах ля самай нашай хаты ці таго, што засталося ад яе, вяскоўцы абавязкова моцна свісталі — маўляў, палюбуйцеся на вашы дрэўцы! І столькі шчырай уцехі было ў іх крыху збянтэжаных вачах. Нават я яшчэ памятаю, як на пачатку 50-ых гадоў гэтыя "носьбіты маралі і духоўнасці, пасучы ноччу коней на лузе, абавязкова прыходзілі пад наша гумно, каб адарваць ад яго з дзесятак апалкаў, каб ускінуць на вогнішча. І ўсё гэта рабілася імі з усведамленнем не столькі законнасці сваіх учынкаў, як уласнай моцы і перавагі над тым, хто быў затаптаны ў гразь чырвонымі "салдатамі сацыяльнай справядлівасці". Нават добрыя пачуцці людзей таліліся ў атмасферы нянавісці і злосці, якую стварылі "вызваліцелі". Палітыка ачмурэння спрацоўвала даволі паспяхова. Людзям унушалася, што яны маюць права помсціць сваім "крыўдзіцелям", шукаць і караць тых, хто "за польскім часам" жыў крыху лепш за іх. Мой бацька з Амерыкі вярнуўся хворы, па гэтай прычыне вымушаны быў наймаць арандатараў, каб управіцца з зямлёй. Апошні арандатар жыў з сям'ёй у нашай хаце і быў "палавічнікам" — за сваю працу браў палавіну ўсяго ўраджаю. Увогуле, быў задаволены сваім лёсам. Але новыя ўлады яго адразу назначылі старшынёй сельсавета, пераканалі, што ён "ахвяра эксплуатацыі", што надышоў ягоны час. Бацька быў выкліканы ў сельсавет, дзе былы "палавічнік" з ярасцю абвясціў: "Ну, што, кулак, піў маю кроў? Цяпер і я пап'ю!" Ён гаварыў праўду. Не толькі мы, але і многія сем'і па яго асабістым жаданні размяркоўваліся па сібірскіх лядоўнях. У яго руках была сканцэнтравана неабмежаваная ўлада. Ён рабіў усё, што хацеў, любому мог павялічыць падатак у некалькі разоў. Ён быў маленькай копіяй Сталіна ў межах адной вёскі. Гэты чалавек недзе ў 60-я гады нечакана з'явіўся на падворку нашага дарэшты занепалага хутарка. Састарэлы, згорблены, змізарнелы, ён папрасіў збянтэжаную такой сустрэчай маці: "Панечка, забудзь, што было, падпішы во паперу, дзе гаворыцца, што я некалі працаваў у вас. Гэта для пенсіі трэба". Як жа маці, беларуская мяккая душа, магла не падпісаць "дакумент" чалавеку, які, аднак, так шчыра спрыяў нашым няшчасцям.

У гэтай сувязі хочацца сказаць вось аб чым. Бальшавіцкія ідэолагі свядома ці несвядома, але праводзілі шырокамаштабную работу, каб дэфармаваць, а ўрэшце выкараніць зусім менталітэт беларусаў, які, як вядома, вызначаецца памяркоўнасцю, спагадлівасцю, ураўнаважанасцю, добразычлівасцю. Гэтыя хрысціянскія рысы ніяк не задавальнялі тых, хто спавядаў вампірскую дактрыну. Каб здзейсніць задуманае, навяўленыя мізантропы рабілі ўсё, каб разбурыць душу вяскоўцаў, распаліць у ёй жывёльныя інстынкты, насцеж адкрыць у ёй усе шлюзы з тым, каб праз іх хлынулі на паверхню злосць, зайздрасць, помста — увесь гэты чалавечы гнюс, які, калі і ёсць у душы, то хаваецца за сямю замкамі, наглуха закрыты, чаму спрыяюць і народная мараль, і нацыянальная культура, і хрысціянская рэлігія. На вялікі жаль, з нялюдскіх планаў шмат што збылося. І сёння мы пажынаем горкія плады д'ябальскага ўздзеяння на нашу нацыянальную душу. Што "развалены" Савецкі Саюз — гэта паўбяды. Значна горш, што ў душы нашай руіны...

Зараз, калі бачу я, праўда, усё радзей, ветэранаў з партрэтамі Сталіна ў руках, я вельмі шкадую, што не стаў псіхіятрам. Якую цікавую дысертацыю можна было б напісаць, кантактуючы з людзьмі, якія ўзвышаюць сталінскі рай. А я не сумняваюся, што гэта хворыя людзі і варты нашага жалю. Бо хіба здаровы чалавек, ведаючы ў прынцыпе ўсё пра таталітарны рэжым, можа апраўдаць яго, які, як гіганцкая крыважэрная пачвара, праглынуў дзесяткі мільёнаў нявінных людзей, сярод якіх было нямала заходнебеларускіх сялян.

На целе Заходняй Беларусі яшчэ смыляць і сёння раны, нанесеныя бальшавіцкім вандалізмам і грубым зямельным рэфарматарствам. Прысыпаныя попелам гадоў, яны тым не менш як след не зарубцаваліся, ды гэта і немагчыма, калі справа тычыцца такой тонкай матэрыі, як памяць.

Вы паездзіце, пахадзіце па дробных прасёлачных дарогах Заходняй Беларусі, паблукайце ўздоўж пералескаў і шматлікіх рэчак, узддымiцеся на ўсе больш-менш кідкія ўзгорачкі — колькі там разбураных котлішчаў! Зарослыя крапівой і малiннікам, сяктак прыкрытыя здзічэлымі расахатымі яблынямі, высокімі грушамі, з двума-трыма камянямі ад фундамента — яны выклікаюць глыбокі смутак і горкія думкі аб трагічнасці, марнасці чалавечых высілкаў. Такія раскіданыя гнёзды, дзе некалі кіпела жыццё, нагадваюць занядбаныя могілкі — і гэта сталася па волі тых, хто халоднай рукой сеяў не росквіт і радасць, а заняпад і журбу.

Я зусім не здзіўляюся, што многія з тых гордых заходнебеларускіх дзецюкоў, хто стаў сведкам ці ахвярай рэпрэсій 39-га года, пайшлі ў паліцыю ці ў Армію Краёву. Ім хацелася сцвердзіць свой чалавечы, чыста мужчынскі гонар і, можа, паквітацца з крыўдзіцелямі. Як ні круці, ні вярці, а гэта было іх асабістым правам, вымушаным дзеяннем, іх на гэта справакавалі ўлады. Іх можна называць "здраднікамі", "нямецкімі служкамі", "дэзерцірамі", "лясннымі бандытамі", але сутнасць у тым, што іх стварыла, выпеставала жорсткая савецкая ўлада, якую яны любіць ніяк не маглі і абараняць свядома не хацелі, бо гэта было б ненатуральна...

Як далёка аднесла мяне рака памяці, калі я сёння, на схіле стагоддзя, прыхінуўся да старадрэвіны, якая, відаць, лепш, чым я, помніць майго бацьку, што памёр хутка пасля вайны, і якая сотні раз бачыла маю вечна маркотную маці, што так тужыла па сваіх дзецях, якія, падросшы, адразу падаліся ў белы свет — як мага далей ад свайго знявечанага, зганьбаванага падворка (дарэчы, лёс іх склаўся несуцяшальна). Але, не нагадаўшы даваенных падзей, не акунуўшыся розумам і сэрцам у тыя суровыя дні, нельга разглядаць сённяшнюю вёску і кранаць яе праблемы. Гаворка будзе няпоўнай. Тым больш што я ў сваіх нататках хачу зрабіць найбольшы акцэнт на дзвюх галоўных іпастасях зла — гвалце і знішчэнні і іх наступствах для вёскі.

Сасна, пад якой стаю, дажывае свой век на самым ускрайку цяперашняга маладога хвойніку. А побач месціцца наш былы мурожны лужок, які чамусьці асушылі, прытым зрабілі гэта з размахам, пракапаўшы праз яго надзвычай глыбокі роў. Хацелася як найлепей, а выйшла як звычайна... Ад некалі пасеянай травы засталіся асобныя кусцікі, астатняя трава — выпадкова-дзікая, хілая, пасохлая. Язык не павернецца назваць яе мурожнаю. І што мяне ашаламіла, дык гэта вельмі моцнае стракатанне конікаў сярод гэтай нікчэмнай "флоры". Літаральна мільёны іх узнімалі да нябёс сваю манатонную песню. Пра што спяваў гэты фантастычны хор? Гэта быў гімн няспыннаму жыццю ці пахавальны марш калгасна-саўгаснай сістэме?

Я стаяў на с в а ё й зямлі, але гэта ўжо чамусьці была не мая зямля. І што я магу адчуваць у гэты міг, законны яе спадчыннік, які нарэшце спыніўся пад родным дрэвам, паэт-бомж, які бясплённа наблукаўся перад гэтым па так званых дзяржаўных выдавецтвах у надзеі выдаць свае нікому не патрэбныя кнігі, чалавек з нязменна пустым кашальком і з сумнай перспектывай сацыяльнай пенсіі?

А што можа адчуваць цяперашні хлебароб — без зямлі, без каня, без калёс, які цярпліва сноўдаецца за брыгадзірам, чакаючы, калі яму "нарэжуць" соткі ці выдзяляць некалькі бункераў саломы на падсцілку, а нарэшце дачакаўшыся ўсяго гэтага, заклапочана моршчыць лоб: а дзе ж ухапіць трактар, машыну ці каня?

Я думаю, што праблема ўсёй гвалтам адабранай маёмасці застаецца актуальнай. Што склаліся іншыя грамадскія стасункі — гэта ні аб чым не гаворыць. Трэба вяртаць адабранае. Як гэта зрабіць? Не ведаю. Ва ўсякім выпадку, дзяржава павінна прызнаць свае даўгі перад канкрэтнымі людзьмі, а сам працэс аддачы даўгоў, вядома, патрабуе глыбокага аналізу і смелых рашэнняў. У прыбалтыйскіх рэспубліках пайшлі на радыкальныя меры: зямлю, будынкі без усякіх хітрасцей вярнулі спадкаемцам, хоць гэта і выклікала незадавальненне пэўных груп насельніцтва і стварыла некаторае напружанне ў сельскагаспадарчай вытворчасці. Але тамтэйшыя ўлады пайшлі на гэта, каб сплаціць свой маральны доўг перад людзьмі. Яны тым самым пакаяліся за тых сваіх папярэднікаў, кім верхаводзіў крамлёўскі Мефістофель.

Мусіць каб мець аўтарытэт, любая ўлада павінна ачысціцца ад грахоў тых дзяржаўных лоцманаў, якія кіравалі раней і, мякка кажучы, страшна пакрыўдзілі простых людзей. Існуе бясспрэчны прынцып дзяржаўнай эстафеты, паводле якога ўвесь папярэдні груз нявырашаных праблем кладзецца на плечы новых прэтэндэнтаў на ўладу, якія павінны загадзя ўзважваць гэты груз, і калі ён ім не па сіле — адыходзіць убок, саступіўшы дарогу тым, хто ўсур'ёз заклапочаны нялёгкай спадчынай, у каго ёсць жаданне расстаўляць усе кропкі над і. Калі хтосьці спасылаецца на развал былога Саюза і ў гэтай сувязі не абяцае развязваць вузлы, што запляліся пры іншых уладах, — гэта несур'ёзна, а з палітычнага пункту гледжання — не прагматычна. Такіх дзяржаўных мужоў і іх наменклатурнае акружэнне любіць не будуць.

Ладна, зямля, іншая маёмасць, адабраная ў заходнебеларускіх сялян у 39, у 49—50-ых гадах. Гэта, скажам так, даўгі, але прысыпаныя ўжо пылам гісторыі. Але як жа баляць людзям іхнія грашовыя ўклады, што згінулі зусім нядаўна! Душэўныя траўмы ад страты сабраных з пчалінай стараннасцю грошай у людзей надта свежыя, гэта нават не траўмы, а раны, якія і не думаюць зарубцоўвацца. Але над праблемай вяртання людзям страчаных укладаў таксама павіс суцэльны туман. Добра, што ёсць пэўныя захады, але яны пакуль мала што значаць для ўсёй масы ўкладчыкаў.

Рэабілітацыя аўтарытэту дзяржаўнай улады вельмі актуальная, інакш мы не зрушымся з месца. Парадаксальна, але мне здаецца, што ўсе 73 гады партыйнага кіравання пайшлі выключна на тое, каб дарэшты скампраметаваць савецкую ўладу, якая ў прынцыпе верай і праўдай магла б служыць людзям, калі б не атэізм, не мілітарызм, не лжывасць, не жорсткасць, не самаўпэўненасць партыйнай эліты. Былое кіраўніцтва Саюза не вельмі ўжо каялася за сваіх крамольных папярэднікаў, хоць і прызнавала факт іх генацыду ў дачыненні да свайго народа. Нам, у цяперашніх асобных рэспубліках, браць прыклад няма з каго. І тым не менш нашай уладзе, безумоўна, трэба падумаць пра свой маральны воблік, шчыра і рашуча разбіраючы завалы мінулага. Павінны ж з'яўляцца дзяржаўныя энтузіясты-рамантыкі, якія катэгарычна дакажуць, што палітыка — гэта не "брудная справа", а чыстае, святое служэнне суайчыннікам.

Калі я гляджу зараз з-пад сасны ў далячынь і выразна бачу, як на ўзгорыстай частцы бацькавага пляца пачынае жаўцець калгаснае жыта, то зусім не млею ад пяшчотнай замілаванасці, што такая ж сакавітая збажына можа быць маёй уласнасцю. Душа спакойная і надзіва схаладзелая. Я ўжо вопытны рэаліст і адчуваю, што такі паварот падзей у бліжэйшым будучым малаверагодны. Але разам з тым мушу сцвердзіць сваю перакананасць, што калектыўная форма ўласнасці на зямлю ўстарэла, безнадзейна хворая, яе лятальны зыход непазбежны, бо яна з самага пачатку была гвалтоўна навязана людзям, ім яна біялагічна супрацьпаказана.

І сапраўды, фундамент калгасна-саўгаснай сістэмы ўзведзены на крыві і слязах соцень тысяч людзей. Што б мы на ім ні будавалі, які гмах ні ўзводзілі б — у гэтым будынку абавязкова будуць блукаць прывіды зняслаўленых, прыніжаных, загубленых людзей. Нельга жыць у такім будынку. Савецкі Саюз, як і іншыя імперыі, рухнуў па той жа прычыне. Лёс калгасна-саўгаснай сістэмы такі ж самы, ён прадвызначаны. Не знаю, тут дзейнічае гістарычны фаталізм ці, хутчэй,назіраецца нябеснае ўмяшанне. Нябесныя сілы ў рэшце рэшт караюць зло.

Вы скажаце, што не так даўно сельская гаспадарка Беларусі працавала амаль бездакорна, былі высокія ўраджаі, на гэтым грунце плённа развівалася жывёлагадоўля, мы кармілі мясам і малочнымі прадуктамі многія рэгіёны Савецкага Саюза, былую армію і флот. Усё так, але ж вы не забывайце, што тады наша сельская гаспадарка, як і ўся прамысловасць Беларусі, была падключана, нібы да штучнага дыхання, да вялікага эканамічнага патэнцыялу былой імперыі. Ніякай "падліткі" звонку зараз няма.

Была і застаецца вельмі важная прычына неэфектыўнасці сённяшняй сістэмы земляробства. Яна агульнавядомая. Яна — у калектыўнай форме ўласнасці. Форма гэта штучная, даўно сябе не апраўдала. Суб'ектам уласнасці не можа быць цэлы калектыў. Суб'ектам уласнасці павінен стаць канкрэт-

## HISTORICAL DICTIONARY OF BELARUS
### (ГІСТАРЫЧНЫ СЛОЎНІК БЕЛАРУСІ)

У амэрыканскім выдавецтве Scarecrow Press выйшаў "Гістарычны слоўнік Беларусі", апрацаваны др. Янкам Запруднікам. Кніга мае разьдзелы: гістарычная храналёгія (ад пачатку да нашых дзён); уводны артыкул — агляд гісторыі Беларусі; слоўнікавая частка (больш за 400 артыкулаў і біяграфічных даведак); бібліяграфія (у тым ліку і асабліва англамоўная); дадатак "Валадары Беларусі" (ад Рагвалода да Лукашэнкі). У кнізе дзьве карты: на аднэй паданыя галоўныя гарады, другая паказвае стратэгічнае палажэньне Беларусі ва Ўсходняй Эўропе.

Кніга Я. Запрудніка выйшла ў сэрыі «Эўрапейскія гістарычныя слоўнікі» (№ 28). Такога роду даведніцкую літаратуру набываюць шмат якія бібліятэкі. На сёньняшні дзень — гэта адзінае англамоўнае выданьне, з якога можна пачарпнуць інфармацыю пра гістарычную і сучасную Беларусь. У кнізе зьмешчаны даведкі пра галоўныя асобы беларускай гісторыі і бягучай палітыкі; артыкулы пра археалёгію, асьвету, гістарыяграфію, дэмаграфію, культуру, літаратуру, мастацтва, эканоміку, беларускую нацыянальную ідэю, беларускую эміграцыю; плямёны, галоўныя гарады, рэкі; рэфэрэндумы, парлямэнт, правы чалавека і г. д.

У слоўніку зьмешчаныя два беларускія альфабэты: кірылічны і лацінічны. Усюды ў кнізе ўжываецца беларускі лацінічны альфабэт. Слоўнік можа быць дапаможнікам для тых, хто, асабліва ў Беларусі, слаба азнаёмлены з беларускай лацінкай.

Кніга напісаная папулярным стылем. Яна будзе карысная ў сем'ях, у якіх школьнікі, дзеці або ўнукі амэрыканцаў беларускага паходжаньня, цікавяцца краем сваіх продкаў. "Гістарычны слоўнік Беларусі" можа быць таксама карысным для тых, хто вывучае ангельскую мову і хоча карыстацца ёю ў інфармаваньні пра Беларусь.

Цана кнігі — 55 даляраў. Яе можна выпісаць з выдавецтва:

**Scarecrow Press, Inc., 4720 Boston Way, Lanham, MD 20706 — Tel. (880) 462-6420.**

## ХАРЫТАТЫЎНАЯ ДАПАМОГА ДЛЯ БЕЛАРУСКАЕ ШКОЛЫ Ў ВІЛЬНІ

26-га сакавіка гэтага году з адрасу нашае газэты было выслана 22 вялікія пачкі харытатыўнае дапамогі — з якіх 6-ць пачак пайшло ў Беларусь і 16-ць у беларускую школу ў Вільні. Агульная вага ўсіх пачак — 1011 фунтаў. За перасылку заплачана: $1,154.58.

Гэтта падаем прозьвішчы людзей добрае волі, якія апэратыўна пакрылі кошты гэтае дабрачыннае перасылкі:

1. **Натальля і Анатоль Лук'янчыкі**
2. **Вера і Мікола Прускія**
3. **Ірэна і Джордж Сьмірновы**
4. **Ларыса Папова**
5. **Надзя і Янка Запруднікі**
6. **Аляксандар Сільвановіч**
7. **Сярэняя школа ў Грэнд Рэпідс**
8. **Фонд "Адраджэньне.**

**Good work!**

Усім ахярадаўцам вялікае дзякуй і Дапамагай Божа!

Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ

## ГРЭШНАЯ ДУША

«Вожык»

Тоўстая, як запарнік, Маня Прушэвіч абаперлася аб плот, ажно затрашчалі ляскі, і гукнула сваёй сяброўцы Лёдзі Макрыцы:

— Мо ты час маеш, то схадзі да Адэлі Казліхі і скажы: сёння буракі з дзялак будзем вазіць. Брыгадзір казаў. Грузіць будзем па чарзе: табе, мне і ёй.

— То няхай і яе Казёл паможа, — прапанавала Лёдзя, — бо мы спруцянеем, грузячы столькі.

— Га? — не дачула грухаватая Маня.

— *Баба Яга*, — *перадражніла* сяброўка. — Казёл, кажу, хай, паможа.

— Паможа ён, як жа. Бачыла, ужо з самай раніцы панёсся на ровары да магазіна, няйнакш, па віно.

— А каб яго з вадой панесла, — абурылася тая. — У мяне ёсцейка пляшка. Паклічам Казліху і вып'ем, каб лягчэй грузілася.

Сказана — зроблена. Кульнулі па кубку і падаліся на бурачны палетак. Працавалі, як апантаныя.

А як ты не будзеш старацца, калі іншыя на пяты наступаюць. Вядома ж, усім хочацца здаць, бо не сёння-заўтра мароз прыцісне.

Правалэндаліся на тым палетку аж да саменькага вечара. Ідучы дадому, скіравалі ў магазін і прыхапілі яшчэ дзве пляшкі віна. Выпілі ў Мані і разышліся па хатах. Уходжвацца.

Толькі ўліла Лёдзя парасятам, якія пішчалі, бы тэлевізар, калі па ім паказваюць сетку, як дзверы адчыніла Адэля Казліха і з парога заляманатавала:

— Бабы, мой Казёл павесіўся! Скажы Мані ды хутчэй дапамажыце зняць.

І знікла, нібы той полтэргейст.

Лёдзя ўтрупянела. Яна надта баялася вісельнікаў. Да Адэлі трэба было перціся ледзь не на другі канец вёскі. Пакуль пераапранешся, бо не пойдзеш жа ў той спадніцы, што свінням насіла, пакуль сходзіш да Мані, то Казёл той заморыцца вісець.

— Ат, суседзі здымуць, — махнула рукой.

Але ж ісці трэба, бо ў сяброўкі бяда.

Гукнула Мані, каб збіралася. Завязалі чорныя жалобныя хусткі, апранулі чысцейшыя сачкі і пайшлі.

— Ад гарэлкі задушыўся, шэльма, — выказалася Маня. — Гэтак жлукціў кожны дзень.

— Пэўна што, грэшная душа, — згадзілася сяброўка.

Яны вельмі здзівіліся, што на падворку і ў хаце ў Казлоў было вельмі ціха — ні людзей, ні гаспадыні. Зірнулі за занавеску, што прыкрывае чыстую палавіну хаты ад запечка, і ўбачылі: Казёл ужо ляжыць на ложку.

— Адэля, напэўна, пабегла каго прасіць, каб з'ездзіў у райцэнтр ды радні тэлеграмы даў. Але ж дзяцей няма, то не надта хто і паедзе. Цяпер такая дарога дарагая.

— Ты не балабонь, а давай будзем мыць нябожчыка. Што дарэмна час траціць, — прапанавала Лёдзя.

— Каб пахмяліцца, — асцярожна выказала пажаданне Маня.

— Дап'ёмся некалі, як гэты Казёл, у пятлю палезем. Ніякай пахмелкі!

Маня знайшла анучку, каб мыць нябожчыка, і хацела паставіць на газавую пліту тазік з вадою.

— На чорта яе грэць, — запярэчыла сяброўка. — І халодная добра будзе. Ён нас пры жыцці — ні на вочы, п'яніцамі абзываў, бы сам быў лепшы, а ты яму ваду грэць? Газ цяпер дарагі, не трэба марнаваць.

— Цемнавата ў запечку, мо лямпачку пашукаць.

— Нічога, не маладую да шлюбу збіраем. Памыем і ўпоцемку.

Яны налілі ў тазік халоднай вады, узялі анучку, і Маня пачала распранаць нябожчыка.

— Памажы сарочку зняць. Цяжкі, як калода.

— Упору мы прыйшлі. Яшчэ не ўстыў.

Яны звалаклі з Казла ўсю вопратку, саставілі ўпоруч табурэткі і крэслы, перанеслі туды нябожчыка, каб не замачыць пасцель, і Лёдзя, добра намачыўшы анучку, пляснула яе на грудзі Казлу, пацерла. Потым намачыла яшчэ і пляснула на твар. Казёл знянацку схапіў яе за руку і мацюкнуўся так, што пад столлю ў хаце заміргала адзіная лямпачка.

Лёдзя абамлела і асунулася на дол.

Сцяміўшы, што ляжыць перад кабетамі голы, Казёл, як уджалены, ускочыў і, схапіўшы цяжкі гумовы бот, шпурнуў яго ў знямелую Лёдзю. Тая падхапілася на ногі і, хрысцячыся, задам адступалася да дзвярэй.

— Ажыў, паганец! Вісельнік! Такіх і пятля не задушыць! — лямантавала Маня. — Нашы мужыкі паўміралі, а гэты алкаш і ў вадзе не тоне, і ў агні не гарыць, і пятля яго не бярэ, — крычала яна ўжо з-за парога.

— Чаго гэта вы такія ўтрапёныя, ды яшчэ і ў чорных хустках? Памёр хто? — высунулася з-за плота Адэля.

— Дык Казёл жа твой быў павесіўся! Мы сталі яго мыць, а ён уваскрэс.

— Ды вы зусім мазгі адпілі, бабы! Ды не мужык жа, а казёл Меркатун павесіўся на суседавым паркане. Цяжкі, як з гліны. Адна зняць не магла, па вас пабегла. А вы во калі з'явіліся, панянкі...

— Каб на табе на тым свеце чэрці ваду вазілі, — сплюнула Лёдзя.

— Стаў бутэльку, а то галаву разаб'ю, — памяркоўна мовіла Маня.

Зыгмунд ДЗЯКЕВІЧ

## ЮЗІК, ДЗЕ МЫ?

Да захаду сонца дзядзька Мар'ян зрабіў «халтуру» — *падвёз на ўласным трактарчыку бульбу суседзям.* «Прывязаў» свайго «коніка» ля дому ды і частуецца. І як гэта заўсёды бывае — мала аказалася таго пачастунку. А суседава жонка ўперлася, як баран у зямлю нагамі: выпілі — і хопіць, вунь чалавек на трактары, недалёка і да бяды. А да мужа:

— Ідзі, Юзік, скаціну глядзець, цалюсенькі дзень стаіць без дагляду.

Ды Юзіку таму зараз скаціна тая патрэбна, як карове сядло. Рванулі абодва да дзвярэй з хаты. А праз некалькі хвілін дзядзькаў трактарчык, віхляючы, імчаў палявой дарогай да суседняй вёскі. Ён узляцеў, як стаенны жарабец, на масток цераз раку, дзіўна завіхляў і кульнуўся носам у ваду, задраўшы ўгару колы, якія працягвалі яшчэ круціцца.

У гэтай вадзяной булькатні з аднаго боку трактара і паказалася галава Юзіка з вывернутымі вачамі. Крыкнуў: "Ты дзе, Мар'ян?" Ніхто не адазваўся, і Юзік зноў нырнуў пад трактар. І тут з другога боку вытыркнуўся дзядзька Мар'ян. Пакруціў навокал галавой.

— Юзік, дзе ты?! — і бултыхнуўся зноў у ваду.

Толькі ён нырнуў, як над вадою з'явілася Юзікава галава.

— Гэй, Мар'ян, ты жывы?! — зноў даў нырца. З другога боку, шалёна хапаючы паветра, выскачыў дзядзька Мар'ян, гукнуў:

— Юзюля, даражэнькі, дзе ты?! — і, трымаючыся за трактар, стаў паднырваць пад яго.

У гэты момант Юзік выплыў ля самага берага, вылез і пабег за кусты.

Дзядзька Мар'ян, усплыўшы на паверхню, збянтэжана заляманатаваў:

— Божа мой, нiяк, утапіўся!

Ён выбраўся на другі бераг і пабег да вёскі. І хоць былі ўжо прыцемкі, скора сабраў аднавяскоўцаў — пусціліся бегам да рачулкі. Юзікава жонка бегла *і* галасіла: «Во што нарабіла праклятая гарэлка, лепей бы я гэтую бульбу на гарбе насіла!».

Калі вяскоўцы падбеглі да рэчкі, то ўбачылі такую карціну: Юзік сядзеў на беразе ракі насупраць трактара і ціха галасіў:

— Ды што ж гэта будзе? І як жа гэта дзядзька Мар'ян утапіўся?




Дзяк. Што ты, айцец, гарэлку п'еш? Яна-ж вораг чалавека.
Сьвятар. Гарэлку я п'ю, бо ў Евангельлі сказана: "Палюбі ворага свайго!"

— Зараз здыму пасак і пабачыце, што будзе — крычыць бацька на непаслушных дзяцей.
— Ведаем — тату спусьцяцца нагавіцы.

**— Добры вечар, даражэнькая цешча!**
**— Што ты, зяцёк, дзень з ноччу зблытаў?**
**— Ды ня зблытаў... Гэта як цябе пабачу, дык уваччу цямнее.**

Прыходзіць жанчына да лекара:
— Спадар доктар сабакі мяне пакусалі.
— У якім месцы?
— Каля ветырынарнай бальніцы...